

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 2 (41), 2004 СЬВЯТА АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА

*«Дык вось, хто ў Хрысьце, той новае стварэньне; старажытнае мінула, цяпер усё новае. А ўсё ад Бога, Які Ісусам Хрыстом прымірыў нас з Сабою і даў нам служэньне прымірэньня, таму што Бог у Хрысьце прымірыў з Сабою сьвет, ня ставячы людзям у віну злачынстваў іхніх, і даў нам слова прымірэньня. Вось мы — пасланцы ў імя Хрыстовае, і як бы сам Бог умаўляе праз нас, у імя Хрыстовае просім: замірэцеся з Богам! Бо Таго, Хто ня ведаў грэху, Ён зрабіў нам ахвяраю за грэх, каб мы ў Ім зрабіліся праведнымі перад Богам».*

Другое Пасланьне да Карынцянаў сьвятога АПОСТАЛА ПАЎЛА *(2 Кар 5, 17-21)*.

## РАЗЬВІТАЛЬНЫ ПРЫЁМ НУНЦЫЯ ЎЛАДЫКІ ІВАНА ЮРКАВІЧА

***22 красавіка 2004 году Сьвяты Айцец Ян Павел ІІ прызначыў новым Апостальскім нунцыем ва Ўкраіне датыхчасовага нунцыя ў Беларусі архібіскупа Івана Юркавіча.***

Уладыка Іван, славенец з паходжаньня, займаў гэтую пасаду з 22 лістапада 2001 году. Падчас сваёй працы ў Беларусі ён стаў вядомы як прамотар развіцьця беларускай хрысьціянскай культуры і пашырэньня беларускай мовы ў жыцьці Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Яго Эксцэленцыя мансіньёр Іван Юркавіч быў таксама шчырым сябрам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы: аказаў вялікую дапамогу падчас перарэгістрацыі нашых парафіяў, рэгулярна сустракаўся з грэка-каталіцкімі сьвятарамі і семінарыстамі, цікавіўся жыцьцём нашае Царквы, узначальваў юбілейныя сьвяткаваньні ў гонар сьвятамучаніка Язафата ў Полацку ў ліпені мінулага году.

Украіна стала шостай дыпламатычнай пляцоўкай архібіскупа Івана Юркавіча. Раней ён працаваў у Паўднёвай Карэі, Калумбіі, Расейскай Федэрацыі і прадстаўніцтве Сьвятой Сталіцы пры АБСЕ. Архібіскуп Іван Юркавіч сьпецыялізуецца ў кананічным праве і за час працы ў Расеі і Беларусі ён апублікаваў шэраг сваіх навуковых прац з галіны кананічнага права пра шлюб, народ Божы і структуры Каталіцкай Царквы.

Разьвітальны прыём нунцыя быў наладжаны 13 траўня 2004 году ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры. На прыёме прысутнічалі каталіцкія біскупы і сьвятары, прадстаўнікі ўладаў на чале са Старшынём Дзяржкамітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Станіславам Буко, праваслаўнае духавенства, дыпламатычны корпус, інтэлігенцыя. Ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы на разьвітальным прыёме былі Апостальскі Візітатар архімандрыт Сяргей (Гаек) і кіраўнік яго сакратарыяту айцец Андрэй Абламейка, якія выказалі пашану Ўладыку Івану і падзяку за ягоную працу ў Беларусі.

Перад сваім ад'ездам ва Ўкраіну ў інтэрв'ю карэспандэнту "БЕЛТА" архібіскуп Іван Юркавіч адзначыў: "Беларусь мае вялікі патэнцыял для разьвіцьця міжканфесійнага дыялогу. Унікальная гісторыя гэтай краіны паспрыяла таму, што ў адной сям'і ў праваслаўнага нехта з блізкіх сваякоў можа быць католікам або прадстаўніком іншай канфесіі. Гэта абумовіла здольнасьць беларусаў, якія належаць да розных рэлігійных традыцыяў, ціхамірна жыць у сваім доме і разумець адзін аднаго, дэманструючы цярпімасьць і талерантнасьць". Як сьцьвярджае мансіньёр Іван Юркавіч, тут, у Беларусі, ён у поўнай меры зразумеў, што Беларусь і ўсе славянскія народы належаць да адзінай еўрапейскай прасторы. І яшчэ: тое, што нельга зрабіць у Маскве або Кіеве, тое можна зрабіць у Менску.




• Цудоўны ўлоў. Дучыё /Duccio/, каля 1260-1319.

*ЗАДАЧА ПЯТРА — НЯСЬПЫННЫ ПОШУК ШЛЯХОЎ ЗАХАВАНЬНЯ АДЗІНСТВА. Ён, такім чынам, не павінен ствараць перашкоды, але адкрываць новыя шляхі, што ніякім чынам не супярэчыць заданьню, дадзенаму яму Хрыстом — «умацоўваць братоў у веры і адзінстве». Апроч таго, паказальна, што Хрыстос прамовіў гэтыя словы менавіта тады, калі Апостал рыхтаваўся адмовіцца ад Яго. Нібыта Сам Настаўнік пажадаў сказаць яму: «Памятай, што ты слабы й сам маеш патрэбу няспыннага навяртаньня. Можаш умацоўваць іншых у той меры, у якой сам разумееш сваю слабасьць. Даручаю табе Праўду, вялікую Праўду, прызначаную дзеля збаўленьня чалавека, але гэтая Праўда ня можа прапаведавацца й зьдзяйсьняцца інакш як у любові».*

Сьвяты Айцец Ян Павел ІІ. Апостальскае пасланьне «Orientale Lumen» («Сьвятло Ўсходу»).



• Менск, 21.05.2004. Разьвітальная сустрэча Апостальскага нунцыя Ўладыкі Івана Юркавіча з ярархамі Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

# Дзеля ўшанаваньня сьв. Апостала Пятра

*З нагоды 25-годдзя пэршапастырскага служэньня Сьвятога Айца Яна Паўла ІІ вядомы беларускі паэт Рыгор Барадулін зрабіў пераклад на беларускую мову "Рымскага Трыпціха" аўтарам якога зьяўляецца Ян Павел ІІ. З мэтай перадаць гэты аўтарскі пераклад Папу Рымскаму Яну Паўлу ІІ Рыгор Барадулін зьдзейсьніў пілігрымку ў Рым 26-30 чэрвеня 2004 году. Падчас пілігрымкі Рыгор Барадулін наведаў магілы сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ды іншыя сьвятыні Рыму.*

*Ніжэй прыводзім урывак з "Рымскага Трыпціха" ў перакладзе Р. БАРАДУЛІНА.*

**ЯН ПАВЕЛ ІІ**

## Рымскі Трыпціх

*Разьдзел ІІ*

***Роздумы над "Кнігаю Роду" на парозе Сыкстынскай капліцы***

**У Капліцы Сыкстынскай мастак пасяліў Суд.**
**У грудзёх капліцы Суд над усім пануе.**
**Тут нябачны канец стаўся пранізьліва бачным.**
**Канец і адначасна празрыстасьці шчыт трапяткі. —**
**Вечны шлях пакаленьняў такі.**

**[...]**

**І тут мяноўна ў нагах гэтай дзівоснай сыкстынскае шматкалёрнасьці**
**зьбіраюцца кардыналы —**
**супольнасьць адказная за спадчыну ключоў Каралеўства.**
**Сыходзяцца мяноўна тут.**
**І Міхал Анёл зноў апаноўвае іх бачаньнем.**
**"У Ім жывем, рухаемся й ёсьць мы..."**

**Хто Ён?**
**Вось стваральная даланя Ўсемагутнага Старца, скіраваная ў бок Адама...**
**На пачатку стварыў Бог...**
**Ён усёвідушчы...**

**Сыкстынская шматкалёрнасьць прамовіла тады Словам Госпада:**
**Tu est Petrus[1] — пачуў Сымон сын Ёны.**
**"Табе дам ключы Каралеўства".**
**Людзі, якім клопат спадчыннасьці ключоў даверaны,**
**зьбіраюцца тут, дазваляюць апанаваць іх сыкстынскай шматкалёрнасьці,**
**выявам, якія пакінуў Міхал Анёл —**
**Так было ў жнівені, а потым у кастрычніку памятнага году двух канклаваў,**
**і так будзе зноў, як стане патрэба,**
**па сьмерці маёй.**
**Трэба, каб прамаўляла да іх выява Міхала Анёла.**
**"Con-clave"[2]: агульны клопат пра спадчыну ключоў, ключоў Каралеўства.**

[1] *Ты ёсьць Пётра (лат.).*
[2] *З ключом (лат.); сход кардыналаў для выбару папы.*

# Памінальная малітва за Васіля Быкава



***22 чэрвеня 2004 году ў Чырвоным касьцёле ў Менску адбылася паніхіда ў гадавіну сьмерці народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава.***

Малітву за памёрлага слугу Божага Васіля ўзначалілі Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) і пробашч касьцёла сьв. Сымона і Алены а. мгр. Уладзіслаў Завальнюк. Прысутнічалі таксама іншыя сьвятары, родныя пісьменьніка, ягоныя сябры і блізкія. Пазьней на Маскоўскіх могілках Менску адбылося асьвячэньне надмагільнага каменя, які быў прывезены з Фінляндыі.

Напярэдадні беларуская грамадзкасьць па ўсёй краіне шырока адзначыла 80-годдзе з дня нараджэньня народнага пісьменьніка. У ягоны дзень народзінаў, 18 чэрвеня, на радзіме ў в.Бычкі Ушацкага раёну Віцебскай вобласьці адкрыўся мемарыяльны музей. Каб аддаць даніну павагі і ўшанаваць памяць Народнага Пісьменьніка 19 чэрвеня мноства людзей з кветкамі прыйшлі да магілы Васіля Быкава. У памяць аб ім прысутныя засьпявалі гімн «Магутны Божа».

Алесь ТРАФІМЕНКА

*На здымку: Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) асьвячае надмагільны камень на магіле Васіля Быкава.*



# Копія Турынскай Плашчаніцы вярнулася ў Менск

***16 траўня 2004 году ў Менск у касьцёл сьв. Сымона і Алены з Украіны вярнулася адна з сямі найбольш дасканалых ў сьвеце копіяў Турынскай Плашчаніцы, якая на працягу 20 месяцаў падарожнічала па ўкраінскай зямлі.***

За гэты час перад рэліквіяй змаглі памаліцца сотні тысячаў вернікаў у Львове, Кіеве, Данецку, Адэсе, Івана-Франкоўску, Тарнопалі, Стрыю і Луцку. Плашчаніцу ўрачыста сустракалі ў грэка-каталіцкіх, рыма-каталіцкіх і праваслаўных храмах Украіны. Зьверхнік УГКЦ кардынал Любамір Гузар адзначыў, што за гэты час «Плашчаніца стала адным з вельмі важных фактараў адраджэньня рэлігійнасьці нашага народу». Цяпер жаданьне прыняць у сваёй краіне гэтую сьвятыню хрысьціянаў выказалі ярархі Каталіцкай Царквы ў Латвіі і Літве.

# У СІРЫІ БУДЗЕ ПОМНІК АПОСТАЛУ ПАЎЛУ

***У канцы кастрычніка 2004 году ў Сірыі будзе ўсталяваны помнік апосталу Паўлу — на тым самым месцы, дзе, паводле Пісаньня, ён быў цудоўным чынам навернены ў хрысьціянства.***

Мяркуецца, што помнік установяць у паселішчы Каўкаб па дарозе ў Дамаск. Агульная вышыня архітэктурнага збудаваньня — пяць метраў. Паводле задумы аўтараў праекту, гэта будзе бронзавы помнік з выявай апостала Паўла з «Новым запаветам» у руках на гранітным пастаменце. Скульптар помніку — Аляксандр Рукавішнікаў, аўтар вядомага помніку на магіле Ўладзіміра Высоцкага і скульптуры Фёдара Дастаеўскага, усталяванай перад Расейскай дзяржаўнай бібліятэкай. Помнік зьяўляецца сумесным праектам РПЦ МП, Антыяхійскага патрыярхату і фонду Андрэя Першапакліканага.

# Вяртаньне да старажытнай багаслужбовай практыкі

*«Звыклым для мяне й многіх іншых вернікаў нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы сталася, што ў Сымбалі веры мы гаворым «Веру ў Духа Сьвятога..., які ад Айца і Сына паходзіць». Але ў новым беларускім грэка-каталіцкім малітоўніку «Госпаду памолімся» дадатку «і Сына», якое ў ранейшых выданьнях падавалася ў квадратных дужках, няма. Ці не маглі б вы растлумачыць такую розьніцу?»*

***Лідзія ТРОЦКАЯ**, Івацэвічы*

Гэтыя словы ў Сымбалі веры заўсёды былі спрэчным пунктам паміж хрысьціянскім Усходам і Захадам. Навучаньне пра зыходжаньне Сьвятога Духа было прынятае на II Усяленскім саборы ў Канстанцінопалі ў 381 годзе. Дадатак пра зыходжаньне Духа Сьвятога ня толькі ад Айца, але і ад Сына, быў зроблены Заходняю Царквою пазьней і стаў прычынаю да царкоўных расколаў, у тым ліку і да самага балючага і непераадоленага расколу ў 1054 годзе.

Сьвяты Айцец Ян Павел II падчас катэхезы на агульнай аўдыенцыі 7 лістапада 1990 году апісаў коратка гісторыю гэтага пытаньня. Ён сказаў: *«Вызнаючы нашую веру ў «Духа Сьвятога, Госпада жыватворчага», мы дадаем «які ад Айца і Сына паходзіць». Як вядома, гэтыя словы былі ўведзеныя ў Нікейскі сымбаль пазьней, бо раней было толькі «веру ў Духа Сьвятога». На Канстанцінопальскім саборы (381 г.) было дададнае тлумачэньне «які ад Айца паходзіць», таму сымбаль і называюць нікейска-канстанцінопальскім. Адпаведны член Сымбаля веры пасьля Сабору 381 г. гучаў так: «Веру ў Духа Сьвятога, які ад Айца паходзіць». Больш позьняя фармулёўка «які ад Айца і Сына паходзіць» (qui a Patre Filioque procedit), якая сустракалася ўжо ў раньніх тэкстах, была прапанаваная Сінодам у Аквісграна ў 809 годзе і канчаткова прынятая ў Рыме ў 1014 годзе з нагоды каранацыі Генрыха II. Пасьля гэтага яна распаўсюдзілася на ўсім Захадзе і была ўхваленая грэкамі і лацінянамі на Усяленскіх саборах — II Ліёнскім (1274) і Фларэнцкім (1439). Дадатак нічога не зьмяняў у сутнасьці спрадвечнай веры, але з павагі да паўсюдна прынятага Сымбаля, які ўжываўся таксама і ў базыліцы сьв. Пятра, самі Рымскія Першасьвятары прымалі яго неахвотна. Словы «і Сына», якія Захад прыняў без вялікага супраціву, выклікалі, аднак, нязгоду й спрэчкі сярод нашых усходніх братоў, якія абвінавацілі Захад у скажэньні сутнасьці навукі Царквы. Сёньня мы можам падзякаваць Госпаду за тое, што і на Захадзе, і на Ўсходзе сэнс гэтых словаў становіцца больш зразумелым».*



Сучасныя памкненьні да большага ўзаемаразуменьня паміж падзеленымі хрысьціянамі выклікалі таксама перагляд навучаньня пра паходжаньне Сьвятога Духа. 29 чэрвеня 1995 году ў Саборы Сьвятога Пятра ў прысутнасьці праваслаўнага Канстанцінопальскага Патрыярха Барталамея I Сьвяты Айцец Ян Павел II у сваім казаньні выказаў пажаданьне, каб было дадзенае тлумачэньне гэтага вучэньня.

Папская Рада па справах Еднасьці хрысьціянаў выдала з гэтай нагоды сьпецыяльны дакумент, які быў надрукаваны 13 верасьня 1995 году ў ватыканскай газеце *«L'Osservatore Romano»*. У ім гаворыцца, што хоць Усходнія Цэрквы не дадаюць словаў *«і Сына»*, Усход зусім не запярэчвае сувязі адавочных стасункаў паміж Сынам і Сьвятым Духам у іх паходжаньні ад Айца. Айцы Канстанцінопальскага сабору грунтаваліся на фрагменце з Евангельля паводле Яна, дзе гаворыцца, што «прыйдзе Суцяшальнік, Якога Я пашлю вам ад Айца, Дух праўды, які ад Айца зыходзіць...» *(Ян 15, 26)*. Грэцкія Айцы і ўвесь хрысьціянскі Ўсход падкрэсьліваюць «адзінаначальле Айца». Аднак гэта не перашкаджала шматлікім Усходнім багасловам, сярод якіх сьв. Рыгор Багаслоў, сьв. Васіль Вялікі, сьв. Максім Вызнаўца і інш., гаварыць і пра ўдзел Сына ў зыходжаньні Духа Сьвятога. Паводле іх вучэньня Дух Сьвяты зыходзіць ад Айца праз Сына, што дакладна згоднае з навучаньнем Айцоў Заходніх. Дарэчы, гэты аспект тайны Тройцы спавядаўся таксама на VII Усяленскім саборы, які адбыўся ў Нікеі ў 787 г., Канстанцінопальскім патрыярхам сьв. Тарасам. Аднак у багаслужбовай практыцы хрысьціянскі Ўсход усё ж заўсёды адкідаў формулу «ад Айца і Сына паходзіць». Каталіцкая Царква таксама была супраць таго, каб дадаваць словы «і Сына» да грэцкага тэксту Нікейска-Канстанцінопальскага Сымбаля веры — нават пры іх выкарыстаньні ў літургіі ў лацінянікаў.

Прычынай, па якой у лацінскай традыцыі зьявілася вучэньне пра *Filioque* — небясьпека арыянства, моцнага ў свой час менавіта на Захадзе. Таму гэтае вучэньне і дадатак *Filioque* да Сымбалю веры павінны былі падкрэсьліць, што Сьвяты Дух мае тую ж самую Боскую прыроду, што і Сын, і гэта зусім не аспрэчвае неразьдзельнага адзінаначальля Айца, адзінай крыніцы Сына і Духа.

***Тэкст Сымбаля веры без Filioque (без дадатку «і Сына»), які падае новы беларускі грэка-каталіцкі малітоўнік «Госпаду памолімся» Апостальская Сталіца цалкам ухваляе, бо ён падкрэсьлівае тоеснасьць Усходніх Каталіцкіх Цэркваў і іх выключнае месца ў Каталіцкай Царкве як сьведкаў традыцыі хрысьціянскага Ўсходу.***

Азначае ён вяртаньне нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы да старажытнай багаслужбовай практыкі, якая сягае каранямі да першых Усяленскіх сабораў. Такой практыкі, дарэчы, прытрымліваюцца сёньня і шмат якія іншыя Усходнія Каталіцкія Цэрквы, у тым ліку нават і тыя Цэрквы лацінскага абраду, дзе выкарыстоўваецца грэцкая мова. Натуральна, не азначае гэта зьмены ў нашай веры. Мы застаемся вернымі навуцы Каталіцкай Царквы.

Каб дапоўніць вобраз памкненьняў да зразуменьня праўды пра зыходжаньне Сьвятога Духа, а таксама да адзінства гэтага разуменьня ўсходнімі і заходнімі хрысьціянамі, варта тут падаць першы з падпісаных у 1596 годзе ў Берасьці «Артыкулаў, якія належаць да злучэньня з Рымскаю Царквою»:

*«Таму, што між рымлянамі і грэкамі існуе спрэчка пра паходжаньне С[ьвятога] Духа, якая неабыяк перашкаджае злучэньню і, праўдападобна, трывае не праз што іншае, як праз тое, што мы не жадаем адзін аднаго зразумець,— просім, каб нас да іншага веравызнаньня не прымушалі, а каб мы засталіся ў тым, якое знаходзім выкладзеным у С[ьвятым] Пісьме, у Евангельлі, а таксама ў пісаньнях С[ьвятых] грэцкіх Дактароў [Айцоў], а іменна, што С[ьвяты] Дух ня мае двох пачаткаў, і падвойнага паходжаньня, а паходзіць з аднаго пачатку, як з крыніцы — ад Айца праз Сына».*

Плённы экуменічны дыялог паміж Праваслаўнай і Каталіцкай Царквой, які вядзецца пасьля II Ватыканскага Сабору, як адзначае Сьвяты Айцец Ян Павел II, «прывёў, як здаецца, да высновы, што *Filioque* не зьяўляецца больш галоўнай перашкодай для дыялогу і яго далейшага разьвіцьця, чаго мы ўсе жадаем і дзеля чаго заклікаем Духа Сьвятога».

**Андрэй КРОТ**, *магістр тэалогіі*

*«Сапраўды, сёньня нам уяўляецца, што праўдзівае адзінства магчымае толькі пры поўнай павазе годнасьці кожнага, і нельга лічыць, што звычаі і традыцыі Лацінскай Царквы ў сваёй сукупнасьці больш адпаведна й вычарпальна адлюстроўваюць поўню сапраўднага вучэньня».*

*Сьвяты Айцец Ян Павел II, Апостальскае пасланьне «ORIENTALE LUMEN» («Сьвятло Ўсходу»).*

# Папа абвяшчае Год Еўхарыстыі ў Царкве

***Ад кастрычніка 2004 году да кастрычніка 2005 году ў Каталіцкай Царкве будзе адзначацца Год Еўхарыстыі. Папа Ян Павел II абвясьціў аб гэтым падчас казаньня на сьв. Імшы, адпраўленай ва ўрачыстасьць Божага Цела на пляцы перад базылікай сьв. Яна на Латэране.***

Сьвяты Айцец зьвярнуў увагу на тое, што Еўхарыстыя зьяўляецца ілюстрацыяй найвялікай таямніцы любові, якая штодзень аднаўляецца падчас сьв. Літургіі: за пасярэдніцтвам сьвятароў Хрыстос ахвяруе Сваё Цела і Кроў за жыцьцё чалавецтва. А тыя, хто ў годны спосаб насычаюцца ля Яго Стала, робяцца жывой прыладаю прысутнасьці Яго любові, міласэрнасьці і супакою.

Каб падкрэсьліць месца і значэньне гэтага сакраманту ў Царкве Папа абвясьціў, што падчас маючага адбыцца 10-17 кастрычніка 2004 году Міжнароднага Еўхарыстычнага Кангрэсу ў Гвадалахары (Мексіка) ва ўсёй Царкве распачнецца Год Еўхарыстыі. Завершыць яго Асамблея Сіноду Біскупаў 2-29 кастрычніка 2005 году на тэму "Еўхарыстыя як крыніца і вяршыня жыцьця ды місіі Царквы".

# Рымскі Архірэй падзяляе ідэю стварэньня грэка-каталіцкага патрыярхату

***1-5 чэрвеня 2004 году ў Рыме адбыліся паседжаньні Пастаяннага Сіноду Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы. У рамках працы Пастаяннага Сіноду адбылася сустрэча ўкраінскіх грэка-каталіцкіх ярархаў са Сьвятым Айцом Янам Паўлам II, Папам Рымскім, з працаўнікамі Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў ды з кардыналам Вальтарам Каспэрам і прадстаўнікамі Папскай Рады па справах Еднасьці Хрысьцінаў, падчас якіх былі абмеркаваны актуальныя для УГКЦ пытаньні ў справе ўстанаўленьня патрыярхату.***

Яго Блаславенства Любамір кардынал Гузар падчас сустрэчаў, у прыватнасьці, падкрэсьліў, што ярархі УГКЦ ня хочуць дзейнічаць у процістаяньні, але жадаюць працаваць разам, ставячыся з разуменьнем да аргументаў адзін аднаго.

Сьвяты Айцец Ян Павел II падчас сустрэчы з членамі Пастаяннага Сіноду УГКЦ 3 чэрвеня 2004 году паведаміў ярархам наступнае: "Я падзяляю Вашае прагненьне, якое мае свае карані таксама ў кананічных і саборных інструкцыях, каб мець поўны юрыдычна-царкоўны лад. Падзяляю гэта як у малітве, так і ў цярпеньні, каб дачакацца дня, вызначанага Госпадам, у якім я, як Наступнік сьвятога Апостала Пятра, змагу пацьвердзіць дасьпелы плод Вашага царкоўнага разьвіцьця. Тым часам, як Вы добра знаеце, Вашае прашэньне сур'ёзна вывучаецца, у тым ліку і ў сьвятле ацэнак іншых хрысьціянскіх Цэркваў. Няхай жа гэтае чаканьне ня стрымлівае Вашай апостальскай адвагі і ня будзе прычынаю, каб пагасіць або зьменшыць радасьць Сьвятога Духа, Які ажыўляе і натхняе Вас, дарагі Кардынале Гузар, як таксама і Вашых Братоў Біскупаў разам са сьвятарамі, богапасьвячанымі асобамі і вернікамі да чым далей усё большага абавязку ў прапаведаваньні Евангельля і ў сьцьвярджэньні Вашай царкоўнай традыцыі".

Уладыка Міхаіл Грынчышын, экзарх УГКЦ для Францыі і краінаў Бенілюксу, які прысутнічаў на сустрэчы са Сьвятым Айцом, на прэсканферэнцыі 12 чэрвеня ў Львове паведаміў таксама, што пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі Ян Павел II сказаў украінскім уладыкам, што адносна патрыяхату «хацеў бы, каб гэта зьдзейсьнілася яшчэ падчас гэтага пантыфікату».

# УГКЦ РАЗАШЛЕ ЛІСТЫ ПРАВАСЛАЎНЫМ ЦЭРКВАМ АДНОСНА ПАТРЫЯРХАТУ

***Зьверхнік УГКЦ кардынал Любамір Гузар заявіў, што цяпер, пасьля таго, як Папа Рымскі адназначна выказаўся ў падтрымку ўкраінскага патрыярхату, перад УГКЦ стаіць задача праводзіць шырокую растлумачальную працу «сваім і чужым», што ёсьць патрыярхат для каталіцкай Царквы ўсходняга абраду.***

З гэтай мэтай у хуткім часе будзе распрацаваны і надрукаваны адмысловы буклет, дзе будуць выкладзены багаслоўскія і гістарычныя асьпекты гэтай справы. Паводле словаў кардынала Любаміра Гузара, УГКЦ мае намер у хуткім часе разаслаць зьверхнікам 15 Праваслаўных Цэркваў, якія негатыўна паставіліся да ідэі стварэньня грэка-каталіцкага патрыярхату, сьпецыяльныя лісты, дзе будзе зроблена спроба патлумачыць пазіцыю УГКЦ адносна патрыярхату.

Падобныя звароты з просьбаю выказаць сваю думку з гэтае нагоды будуць разасланыя таксама і Патрыярхам Усходніх Каталіцкіх Цэркваў. Гэта вельмі важная справа для ўсёй Царквы, падкрэсьліў зьверхнік УГКЦ, бо ёсьць добрая нагода закласьці салідную базу пад саму ідэю патрыярхатаў усярэдзіне Каталіцкай Царквы. І менавіта таму гэтая праца мусіць праходзіць з вельмі дакладным захаваньнем нормаў царкоўнага закону.

# Царква не баіцца ацэнкі мінулага

***Царква не баіцца ацэнкі ўласнага мінулага і гатова прасіць прабачэньня за памылкі і злоўжываньні, учыненыя праз яе сыноў і дачок на працягу вякоў – пра гэта напісаў Папа Ян Павел II 15 чэрвеня 2004 году ў сваім лісьце з нагоды выданьня матэрыялаў міжнароднай канферэнцыі на тэму інквізіцыі.***

Канферэнцыя гэтая адбылася 29-31 кастрычніка 1998 году ў Ватыкане. Прэзентацыю матэрыялаў канферэнцыі зрабілі кардыналы Ражэ Этчэгэрэй і Жан-Луі Таран. У лісьце, адрасаваным тэалагічна-гістарычнай камісіі Вялікага Юбілею 2000 году, якая была арганізатарам гэтага спатканьня, Папа прызнае, што ў грамадзкай сьвядомасьці вобраз інквізіцыі паўстае ў пэўным сэнсе як "сымбаль антысьведчаньня Добрай Весткі і згаршэньня" і дадае, што перад тым, як выступіць з просьбай аб прабачэньні, належыць дакладна пазнаёміцца з фактамі. І менавіта па гэтай прычыне камітэт зьвярнуўся папрасіў кансультацыі ў гісторыкаў, чыя навуковая кампетэнтнасьць усеагульна прызнана.

«Каштоўны ўклад гісторыкаў прымусіў багасловаў паразважаць над умовамі жыцьця Народу Божага ў яго падарожжы ў гісторыі,— піша Сьвяты Айцец.— Аднак падчас свайго крытычнага аналізу багасловы павінны адрозьніваць сапраўднае *"sensus fidei"* ("пачуцьцё веры") ад пануючага сьветапогляду ў пэўны перыяд, які мог паўплываць на іх думку. Неабходна зьвярнуцца да *"sensus fidei"*, каб вызначыць крытэр справядлівага суджэньня пра мінулае жыцьцё Царквы.

Гэтае пачуцьцё ня цяжка распазнаць, бо з цягам часу Царква, ведамая Духам Сьвятым, усё выразьней усьведамляе патрабаваньне адпавядаць Сужонку.

Дух пакаяньня мае на ўвазе цьвёрдую рашучасьць шукаць у будучыні шляхі евангельскага сьведчаньня пра ісьціну».

Ян Павел II нагадвае, што ў Сьвяты Год — 12 сакавіка, у Дзень Прабачэньня — ён папрасіў ад імя ўсёй Каталіцкай Царквы аб прабачэньні памылак, зробленых у служэньні праўдзе, бо зьдзяйсьнялася яно "неевангельскімі метадамі". Малітва, якую скіраваў з гэтай нагоды да Бога, нагадвае Папа, ахоплівала як "трагедыі інквізіцыі", так і ўсе іншыя "раны, учыненыя памяці".

Сьвяты Айцец падзякаваў усім, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі кнігі па матэрыялах сімпозіюму на тэму інквізіцыі. Як заўважыў на прэзентацыі 15 чэрвеня 2004 году кардынал Ражэ Этчэгэрэй, яны налічваюць больш за 800 старонак і зьяўляюцца "данінай пашаны да гістарычнай праўды", а таксама сьведчаньнем таго, што Царква не баіцца аддаваць ацэнцы сваё мінулае.

## Ватыкан прызнаў галоўную хрысьціянскую сьвятыню Індыі

***У якасьці месца міжнароднага паломніцтва Ватыкан афіцыйна прызнаў галоўную хрысьціянскую сьвятыню Індыі — храм сьвятога апостала Тамаша ў горадзе Малаяттур (штат Керала) .***

Дакумент, які пацьвярджае адменны статус сьвятыні, абвясьціў галоўны архібіскуп япархіі Эрнакулам-Ангамалі Сірыйска-Малабарскай Каталіцкай Царквы кардынал Варкей Вітхаятхіл, у распараджэньні якога знаходзіцца месца пакланеньня апосталу Тамашу.

Месцам паломніцтва зьяўляецца ўзгорак у Малаяттуре, на якім, згодна з паданьнем, апостал, які хрысьціў індыйцаў, адасабляўся для малітвы. У народзе гэтае месца вядома як Кірысумудзі, або Крыжовы ўзгорак. На ўзгорку знаходзяцца капліца і царква сьв. Тамаша. У капліцы захоўваюцца мясцовыя сьвятыні — адбіткі ступняў апостала і залаты крыж. Холм Кірысумудзі стаў цэнтрам паломніцтва хрысьціянаў яшчэ ў пятым стагоддзі ад Раства Хрыстова.

## Царкоўны фэст «Каталікентаг» у Нямеччыне

***У нямецкім горадзе Ульм 20 чэрвеня 2004 году завершыўся вялікі каталіцкі фэст «Католікентаг», у якім прынялі ўдзел каля 35 тысячаў вернікаў, сярод якіх былі таксама пратэстанты (каля 10%) і праваслаўныя. Вяршыняй фэсту «Католікентаг» стала экуменічная малітва з удзелам пратэстанцкіх пастараў.***

На фэст прыбыў таксама Старшыня Папскай Рады па справах Еднасьці хрысьціянаў кардынал Вальтар Каспэр.

17 чэрвеня адбылася цырымонія асьвячэньня вады ракі Дунай па праваслаўным абрадзе. Дзеля гэтага сьпецыяльна з Масквы быў дастаўлены крыж, які тройчы апусьцілі ў воды ракі.

Адной з галоўных падзей фэсту стала публічная дыскусія старшыні нямецкай Канферэнцыі Біскупаў кардынала Карла Лемана і швайцарскага багаслова а. Ганса Кюнга, які прытрымліваецца крайне ліберальных поглядаў. Гэтае мерапрыемства 19 чэрвеня сабрала каля 6 тысячаў слухачоў. Дыскусія была прысьвечана дакументу *«Lumen Gentium»* пра ролю сьвецкіх у жыцьці Царквы, над якім працавалі абодва багасловы на II Ватыканскім саборы.

Усяго ў рамках «Католікентагу» адбылося звыш 800 мерапрыемстваў — ад біблійных семінараў і набажэнстваў да кірмашоў, канцэртаў і выставаў. На рок-канцэрт, які таксама быў у праграме фэсту, прыйшло больш за 50 тысячаў чалавек. Каля 9 тысячаў вернікаў узялі ўдзел у набажэнстве пры сьвечках, якое ладзіла экуменічная супольнасьць Тэзэ.

Паводле словаў кардынала Лемана, фэст даў многім удзельнікам «пачуцьцё натхненьня». «Разам з нашымі братамі і сёстрамі – праваслаўнымі і пратэстантамі — мы ўзрастаем у веры»,— заявіў ён.

## ПАПА Ў ШВАЙЦАРЫІ: ДУХОВЫ ЦУД У БЕРНЕ

***Сьвяты Айцец Ян Павел II 5-6 чэрвеня 2004 году зьдзейсьніў свой 103-і Апостальскі візіт — у Швайцарыю. Ён заклікаў Каталіцкую Царкву гэтай краіны да еднасьці, аднаўленьня веры і ўзмацненьня экуменічных намаганьняў.***

У сьв. Імшы з удзелам Папы, якая адбывалася на 4-х дзяржаўных мовах краіны, удзельнічалі 70 тысячаў пілігрымаў, прычым пераважна маладых, што стала сапраўднай нечаканасьцю для прэсы. Папа падкрэсьліў, што разьвіцьцё экуменізму будзе залежыць ад заангажаваньня швайцарскіх католікаў у справы ўнутранай еднасьці ўласнай Царквы. Адбылося таксама спатканьне Яна Паўла II з моладдзю, на якое прыйшло каля 14 тысячаў чалавек. Амаль усе газеты адзначаюць, што моладзь вітала Рымскага Архірэя вельмі цёпла. «Доўг абвяшчаць Евангельле Хрыстова — вось што штурхае мяне падарожнічаць па сьвеце»,— сказаў ім Сьвяты Айцец.

## ЭКУМЕНІЧНЫ ПРАЕКТ «ЦЭНТР БАЦЬКОЎСТВА»

***З 28 па 30 траўня 2004 году ў Львове ва Украінскім Каталіцкім Універсітэце адбыўся міжнародны кансультацыйны семінар на тэму "Умацоўваючы сем'і, умацоўваем бацькоў".***

***Семінар быў арганізаваны польскай Фундацыяй сьв. Кірылы і Мятода (FCM), якую заснаваў біскуп Уладзіслаў Мізёлак, адзін з пачынальнікаў польскага экуменізму.***

У рамках Фундацыі сьв. Кірылы і Мятода існуе праграма "Цэнтр бацькоўства", мэта якой — заахвочваць дасьледніцкую працу ў экуменізме, што зьвязаная з роляй бацькі ў сям'і. Пра гэты праект FCM распавёў яго каардынатар д-р Дарыюш Цупял (*KUL*, Люблін). Фундацыя сьв. Кірылы і Мятода на працягу сваёй 5-гадовай дзейнасьці рэалізавала шэраг важных міжнародных ініцыятываў як на тэрыторыі Польшчы, так і па-за яе межамі. Да ўдзелу ў вышэйназваным праекце запрошаныя прадстаўнікі Польшчы, Украіны, Беларусі, Славакіі і Расеі. У семінары, што праходзіў у Львове, удзельнічаў прадстаўнік Сакратарыяту Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі а.Аляксандар Сапунка. Фундацыя зьвяртае асаблівую ўвагу на евангелізацыю, экуменізм і адукацыю. Адной з мэтаў FCM зьяўляецца таксама фармацыя моладзі і фармаваньне адказнасьці ў мужчынаў-бацькоў для прыняцьця актыўнай ролі ў сям'і і грамадзтве, папулярызацыя сямейных каштоўнасьцяў.

На канферэнцыі ў Львове абмяркоўвалася правядзеньне дасьледаваньняў, каб паказаць "становішча бацькоў сёньня", а таксама падрыхоўка навучальных модуляў для фармацыі бацькоў ды адкрыцьцё рэдакцыі інтэрнэт-старонак на польскай, славацкай, расейскай, украінскай мовах, дзе былі б апублікаваныя парады бацькам.

Наступная міжнародная канферэнцыя для бацькоў адбудзецца 27–29 жніўня 2004 году ў Дамбровіцах каля Любліна (Польшча).

**а. Аляксандар САПУНКА**

## НАВІНЫ АДНЫМ РАДКОМ

• Пасьля ўмяшальніцтва ўраду Грэцыі патрыярх Канстанцінопальскі Барталамей I вырашыў аднавіць стасункі з Эладзкай Царквой пасьля жорсткай спрэчкі пра кантроль над парафіямі ў паўночнай частцы Грэцыі, у тым ліку ў Салоніках. Духоўныя і адміністратыўныя сувязі былі спынены 30 красавіка 2004 году пасьля таго, як без узгадненьня з патрыярхам Барталамеем I архібіскуп Эладзкай Царквы Хрыстадул прызначыў трох мітрапалітаў у Паўночнай Грэцыі, дзе вярхоўнае праўленьне па-ранейшаму належыць Канстанцінопальскаму патрыярху.

• Папа Ян Павел II прызначыў 12 чэрвеня 2004 году архібіскупа з Масквы Тадэвуша Кандрусевіча (ураджэнца Беларусі) членам двух дыкастэрыяў: Кангрэгацыі па справах Духавенства, а таксама Папскай Рады «Справядлівасьць і мір».

• У Бялградзе 10-13 чэрвеня 2004 году па ініцыятыве канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Сербіі і Чарнагорыі прайшла сустрэча генеральных сакратароў каталіцкіх біскупскіх канферэнцыяў Еўропы, якія абмеркавалі ролю хрысьціянства і Цэркваў у сучаснай Еўропе, удзялілі асаблівую ўвагу працэсу аб'яднаньня кантынету, усталяваньню міру і згоды на Еўрапейскім кантынеце. Адна з сэсіяў канферэнцыі была прысьвечана экуменізму і ў прыватнасьці стасункам Каталіцкай і Праваслаўнай Царквы, а таксама III экуменічнай асамблеі Еўропы, якая пройдзе ў 2005 годзе. Ад каталіцкіх ярархаў Беларусі на нарадзе прысутнічаў Уладыка Антоні Дзямянка.

• З 24 па 26 мая 2004 году ў Мінску прайшлі X Міжнародныя Кірыла-Мятодаўскія чытаньні, прысвечаныя Міжнароднаму дню славянскага пісьменства і культуры. Тэма юбілейных чытаньняў — «Царква і інфармацыйна-адукацыйная прастора».

• Беларусь 16-19 чэрвеня 2004 году наведаў Генеральны сакратар Сусьветнай Рады Цэркваў д-р Самуэль Кобія. Разам з ім у Менск прыехалі яшчэ 24 члены СРЦ. Нагодай для іх візіту стала чарговае паседжаньне сьпецыяльнай камісіі па пытаньні ўдзелу Праваслаўных Цэркваў у працы Сусьветнай Рады Цэркваў. Вядомыя багасловы прачыталі таксама шэраг лекцыяў на факультэце тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэту.

• «Rome Reports» — так называецца нядаўна утворанае тэлевізійнае інфармацыйнае агенцтва ў Рыме, мэта якога — забясьпечыць усё большыя патрэбы многіх тэлевізійных станцыяў сьвету інфармацыяй пра жыцьцё Царквы, папы і Апостальскай Сталіцы.

• Сумесная амерыкана-турэцкая навуковая экспедыцыя зьбіраецца ўзысьці на Арарат, каб з 15 ліпеня 2004 г. на працягу месяцу вывучыць загадкавы аб'ект, які адлюстраваны на даволі якасна зробленых фотаздымках са спадарожніка. Аб'ект яўна рукатворны і нагадвае легендарны біблійны Ноеў Каўчэг.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў AGNUZ, Прэс-сакратарыяту Главы УГКЦ, КАІ і іншых крыніцаў.*

## ЭКУМЕНІЧНЫ КАНГРЭС «РАЗАМ ДЛЯ ЕЎРОПЫ»

***8 траўня 2004 г. у Штутгарце адбыўся Еўрапейскі экуменічны кангрэс «Разам для Еўропы» («Together for Europe»), у якім прынялі ўдзел каля 10 тысячаў прадстаўнікоў з 175 каталіцкіх, пратэстанцкіх, праваслаўных супольнасьцяў і рухаў. У складзе дэлегацыі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў кангрэсе бралі ўдзел семінарыст Аляксандар Шыбека і тэолаг Вячаслаў Стэцко.***

Сярод удзельнікаў Кангрэсу былі такія знакамітыя асобы, як кардынал Вальтар Каспэр, заснавальніца і прэзідэнт руху Факаляраў К'яра Любіх, прэзідэнт Еўрапейскай Камісіі Рамана Продзі, каралева Бельгіі Паола. Адначасова ў гэты самы дзень адбываліся падобныя экуменічныя спатканьні больш чым у ста еўрапейскіх гарадах, якія былі паяднаныя паміж сабой сродкамі спадарожнікавай тэлекамунікацыі.

На Кангрэсе была ўзьнята вельмі важная для хрысьціянаў тэма — зьмест прэамбулы да Еўрапейскай Канстытуцыі, у якой «не знайшлося месца для Бога», якое заняў «розум». Удзельнікі Кангрэсу, шукаючы адказы на пытаньні пра каштоўнасьці, якія будзе рэпрэзентаваць новая Еўропа, падкрэсьлівалі вялікае значэньне братэрства і еднасьці як чыньнікаў, што будуюць супольны еўрапейскі дом, вольны і роўны, умацаваны любоўю і салідарнасьцю, адкрыты да ўсяго сьвету.

**Алесь ШЫБЕКА**

## СЛУЖЭНЬНЕ ХВОРЫМ НА ЦУКРЫЦУ

***Сымбалічна, што менавіта ў часе Вялікага посту 20-21 сакавіка 2004 году адбылася ў Івацэвічах у грэка-каталіцкай парафіі Жыровіцкай іконы Маці Божай сустрэча ініцыятыўнай групы, якая мае намер працаваць у межах дыабетычнай праграмы.***

Дзейснае супераджываньне з тымі, хто цярпіць на гэтую хваробу, практычная дапамога такім вернікам, арганізацыя адмысловага адпачынку, простае быцьцё разам — усё гэта павінна засьведчыць прысутнасьць Царквы ў сучасным сьвеце, сутнасьць хрысьціянскага цярпеньня й салідарнасьці. Удзельнікі праграмы, якія прыехалі з Менску і Берасьця, а таксама мясцовыя парафіяне спадзяюцца сустрэцца зноў і паслужыць тым, хто мае патрэбу. Апостальскі Візітатар архімандрыт Сяргей Гаек, які быў прысутны ў гэты час у Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі, паблаславіў далейшую працу ў гэтым кірунку.

Сьвята Вялікадня сьведчыць пра перамогу над роспаччу, цярпеньнем і сьмерцю, і мы ўсіх хрысьціянаў шчыра віншуем з гэтым сьвятам ды просім аб малітве за нашае служэньне хворым на дыябет. А тых, хто сутыкнуўся з праблемай цукровага дыябету ў які-кольвек спосаб, запрашаем з намі зьвязацца праз рэдакцыю «Царквы» або e-mail: *ulskizamak@tut.by*.

**Лявон УЛЬСКІ**, *г.Менск*

## ЕЎХАРЫСТЫЯ: КРЫНІЦА, ВЯРШЫНЯ, ЖЫЦЬЦЁ

***Эклезіялагічныя тыдні, якія праходзяць у Люблінскім каталіцкім універсітэце, ужо некалькі дзесяцігоддзяў зьбіраюць разам вучоных і студэнтаў ня толькі з Польшчы. З 22 па 24 сакавіка 2004 году адбываўся ўжо XXXVI Эклезіялагічны тыдзень, у якім бралі ўдзел таксама і прадстаўнікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.***

Галоўнай тэмай сёлетняга сімпозіюму стала Еўхарыстыя, а дэвізам словы «Крыніца — Вяршыня — Жыцьцё. Вакол фундаментальнага вымярэньня таямніцы Еўхарыстыі». А нагодай да асаблівага зацікаўленьня тэматыкай Еўхарыстыі для арганізатараў сімпозіюму стала апошняя энцыкліка Сьвятога Айца *«Ecclesia de Eucharistia»*.

Дэвізам першага дня сімпозіюму былі словы з Евангельля паводле Яна «Цела Маё Я аддам за жыцьцё сьвету» *(Ян 6, 51)*. Дакладчыкі гэтага дня зьвярнулі асаблівую ўвагу на разуменьне Еўхарыстыі як ахвяры. Гэты аспект у сучасным сьвеце застаецца часта па-за ўвагаю хрысьціянаў. Еўхарыстыю называюць сёньня часьцей сустрэчаю, успамінам, часамі яе зводзяць толькі да эстэтычных перажываньняў. Разуменьне Еўхарыстыі як ахвяры знайшло сваю асабліва моцную выяву ў Сьвятой Імшы паводле абраду Пія VI, у так званай «трыдэнцкай імшы».

Падчас другога дня сімпозіюма, тэмай якога сталі словы «Хто спажывае гэты хлеб, будзе жыць навекі» *(Ян 6, 58)*, найбольш яскрава была прадстаўленая ўсходняя тэматыка. Эсхаталагічная перспектыва, галоўная ў дакладах гэтага дня, зьяўляецца найбольш характэрнаю для візантыйскай традыцыі. «Імкнуцца да славы будучага веку»,— так акрэсьліў гэтую перспектыву ў сваім дакладзе Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. Ён паказаў тэалогію Анафары сьв. Васіля Вялікага, якая найбольш яскрава выяўляе момант нашага паднясеньня да хвалы неба, да перспектывы супольнасьці сьвятых. Таму падчас малітвы эпіклезы ва ўсходнім абрадзе Дух Сьвяты заклікаецца ня толькі на дары, але й на супольнасьць вернікаў. Еўхарыстыя ўключае нас у духовую хвалу неба, дзе нашымі папяреднікамі зьяўляюцца сьвятыя, асабліва мучанікі. Другі дзень эклезіялагічнага тыдня завяршыла Літургія раней асьвячаных Дароў, якую адслужыў у царкве Нараджэньня Багародзіцы парах грэка-каталіцкай парафіі ў Любліне а.Стэфан Батрух.

Найбольш цікавым момантам трэцяга, апошняга дня сімпозіюма стаў даклад а. доктара Пшэмыслава Кантыка «Хрысьціяне за адным сталом Еўхарыстыі. Магчымасьць і перспектыва інтэркамуніі». Для католікаў магчымасьць прыняцьця сьв. Прычасьця ў іншых веравызнаньнях вельмі абмежаваная. Прычынаю абмежаваньняў зьяўляецца тое, што інтэркамунія зьяўляецца мэтаю, а ня сродкам экуменічнага дыялогу. Патрэбны доўгі і грунтоўны дыялог паміж падзеленымі сёньня хрысьціянамі на тэму Еўхарыстыі. Але Бог заўсёды над усім, таму супольнае прыняцьце Еўхарыстыі не зьяўляецца немагчымым.

**Андрэй КРОТ**

## ХРЫСЬЦІЯНСКІ СКАЎТЫНГ У БЕЛАРУСІ

***22-23 траўня 2004 году ў Закарпацьці ва Украіне быў арганізаваны міжнародны хрысьціянскі скаўцкі лагер. Ладзіўся ён для украінскіх і беларускіх скаўтаў, арганізацыі якіх уваходзяць у Федэрацыю Скаўтаў Еўропы (FSE).***

У лагеры адбывалася шкаленьне кап'явых (адказных у коп'ях — групах з 8-10 асобаў). Навучаньне тэорыі турызму і скаўцкай педагогіцы праводзілі скаўт-майстры з Польшчы. Сярод удзельнікаў праграмы былі таксама грэка-католікі з Менску і Пінску.

Педагогіка хрысьціянскага скаўтынгу, якой прытрымліваецца Федэрацыя Скаўтаў Еўропы, ужо некалькі гадоў вядомая ў Беларусі. Цяпер заканчваецца падрыхтоўка статуту беларускай краёвай арганізацыі ФСЕ для рэгістрацыі Канферэнцыяй Епіскапату Беларусі і ў дзяржаўных органах улады. Дружыны скаўтаў дзейнічаюць пры рыма-каталіцкіх парафіях у Віцебску і Барысаве. Пры грэка-каталіцкай парафіі сьв. Язэпа ў Менску існуюць дружыны Сьвятой Барбары (скаўтак) і Блаславёных Пратулінскіх мучанікаў (скаўтаў). Афармляюцца хрысьціянскія скаўцкія дружыны і ў іншых месцах. Душпастырскую апеку скаўтам аказвае а. Андрэй Абламейка з Менску *(адрас для кантактаў з ім: a.aa@tut.by)*.

Скаўты актыўна ўдзельнічаюць у парафіяльным жыцьці: дзяўчаты сьпяваюць у хоры, а хлопцы прыслугоўваюць на літургіі. Акрамя традыцыйных для скаўтаў заняткаў спортам і вывучэньня тэорыі турызму, якія заўсёды скіраваныя да адной мэты — скаўцкага летніка, на штотыднёвых сустрэчах хрысьціянскіх скаўтаў адбываюцца і катэхезы. А яшчэ хлопцы і дзяўчаты са скаўцкіх дружын зазвычай рыхтуюць сьвяточныя праграмы на Раство ці Вялікдзень у сваёй парафіі.

**Андрэй КРОТ**

## ЎІК-ЭНД СУПОЛЬНАСЬЦІ СЕМ'ЯЎ «КАНА»

***На пачатку траўня 2004 году ў Менску пад патранатам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы і Супольнасьці «Chemin Neuf» адбыўся другі адкрыты Ўік-энд для сем'яў з грэка-каталіцкіх і рыма-каталіцкіх парафіяў, які ладзіла супольнасьць сем'яў «Кана» ў Беларусі.***

З розных куткоў Беларусі ў Менск прыехалі 30 сужэнстваў, стаж сумеснага жыцьця якіх быў ад 4 месяцаў да 30 гадоў. На працягу двух дзён удзельнікі Ўік-энду навучаліся, дзяліліся досьведам і сьведчылі пра Божую Любоў да сям'і. Усе ўдзельнікі засталіся вельмі задаволеныя ад гэтай сустрэчы сем'яў, бо шмат для сябе адкрылі новага і карыснага.

Супольнасьць сем'яў «Кана» ў Беларусі сардэчна дзякуе кіраўніцтву БГКЦ у асобе Архімандрыта айца Сяргея Гаека, Супольнасьці «Chemin Neuf» /»Новая дарога» у асобе айца Фабрэ, спадарства Анджэя і Касі Лукомскіх з Вясёлай (Польшча), айцу Андрэю і Сьвятлане Абламейкам, сем'ям парафіянаў менскіх грэка-каталіцкіх парафіяў, скаўтам, а таксама ўсім, хто спрычыніўся да арганізацыі ўік-энду ў Менску. Няхай Бог трымае вас у Сваёй апецы.

**Ірына ЛАЎРОЎСКАЯ**, *г.Берасьце*

Вячаслаў СТЭЦКО

# Дзякуйце за ўсё

*«...Дзякуйце заўсёды за ўсё Богу і Айцу,
у імя Госпада нашага Ісуса Хрыста»* (Эф 5, 20)

Еўхарыстычны матыў, які зьяўляецца падчас аналізу біблійнага слова *«дзякую»*, аб'ядноўвае тэматыку падзякі з гісторыяй Збаўленьня, якая адбываецца на зямлі. І менавіта ў тым напрамку трэба кіравацца, каб зразумець сэнс і значэньне малітвы падзякі. Мы паказалі гэта часткова ў папярэдняй частцы нашых разважаньняў*. Такім чынам малітва падзякі зьвязаная з распачатым яшчэ ў Старым Запавеце пасланьнем і справай Збаўленьня, вяршыняю якога зьяўляецца асоба і дзейнасьць Ісуса Хрыста. У Ісусе Хрысьце і ў Яго справе Збаўленьня для ўсіх нас магчыма сапраўдная падзяка, сапраўднае выхаваньне паставы падзякі. Тым ня менш, для больш глыбокага разуменьня тэмы, накіруем сёньня ўвагу на больш шырокі сэнсавы кантэкст малітвы падзякі — старазапаветны. Гэта ў нейкім сэнсе неабходна, каб цэласна і кантэкстуальна зразумець дынаміку заклiку апостала *«дзякуйце за ўсё»*.

У гісторыі збаўленьня Бог адкрываецца як Збаўца, які вызваляе чалавека ад граху й зла. Таму падзяка і малітва падзякі ў старазапаветных тэкстах часта зьвязаная са збавеннымі падзеямі, якія датычылі дзеяў чалавека і выбранага народу. Мы будзем раскрываць гэтую тэму падчас нашых біблійных разважаньняў. Каб зразумець ідэю падзякі ў перспектыве гісторыі збаўленьня, параўнаем некалькі біблійных фрагментаў, якія стасуюцца цікавых для нас тэмаў.

Добрай ілюстрацыяй у пошуках значэньняў звароту *«за ўсё дзякуйце»* зьяўляецца *Псальм 94*, які тэматыку падзякі ўключае ў кантэкст Божага пакліканьня і дзеяньня:

*«Прыйдзеце, засьпяваем Госпаду, усклікнем Богу, цьвярдыні ратунку нашага; станем перад абліччам Ягоным з хвалою, у песьнях усклікнем Яму, бо Госпад ёсьць Бог вялікі і Цар над усімі багамі. У руцэ Ягонай глыбіні зямлі, і вяршыні гор — Ягоныя; Ягонае — мора, і Ён стварыў яго, і сушу стварылі рукі Ягоныя. Прыйдзеце, паклонімся і прыпадзем, укленчым перад абліччам Госпада, Творцы нашага, бо Ён ёсьць Бог наш, і мы — людзі паствы Ягонай і авечкі рукі Ягонай»* (Пс 94, 1-7).

*Псальм 94* добра паказвае характэрныя элементы і рысы малітвы падзякі. Падзяка канцэнтруецца галоўным чынам на Богу як на Творцы, Богу Ўсемагутным, Богу, Які зьяўляецца аднachасова Богам *для чалавека і з чалавекам*. Такім чынам, яна зьвязаная з самой асобай Бога і Яго вялікімі справамі. Без сумніву, такою вялікаю справаю зьяўляецца Стварэньне сьвету і чалавека. Чалавек у Божай справе зьяўляецца вяршыняю стварэньня. Бог адрозьнівае яго ад жывёлаў, робіць яго зьверхнікам і ўладаром сьвету. Ён стварае асобу чалавека на свой вобраз і падабенства. Гэта значыць, што яна знаходзіцца ў залежнасьці й асаблівых стасунках з Богам. Стварэньне чалавека на вобраз і падабенства можна лічыць пачатковаю кропкаю ўсіх разважаньняў пра чалавека, што ня толькі дае інфармацыю пра пачатак існаваньня чалавечага жыцьця ці пра сутнасьць чалавека, але ўказвае на яго ўключэньне ў творчы боскі лад. Ствараючы сусьвет, Бог упарадкоўвае першапачатковы хаос і гарманічна ўкладае ўсё існае — такая ж магчымасьць магутнай і разумнай дзейнасьці прызнаецца і за чалавекам. Чалавек адораны здольнасьцю называць падпарадкаваныя яму рэчы, у выніку чаго яны сталіся «душою жывою» *(Быц 2,19-20)*.Такім чынам, чалавек зьяўляецца ня толькі істотаю, якая адрозьніваецца ад іншых жывых істот, створаных Богам, але істотаю, якая становіцца нібы «рукамі» Бога Творцы на зямлі. Чалавек зьмешчаны на зямлі, каб, падобна як Бог, ствараць гісторыю і ўпрыгожваць сьвет.

У Сьвятым Пісаньні Старога й Новага Запавету неаднаразова ідэя падзякі спалучаецца з ідэяй стварэньня. Спалучэньне падзякі і стварэньня мае аграмадны тэалагічны сэнс. Яно ставіць Бога й чалавека, а асабліва стасункі паміж імі ў цэнтр гісторыі. Гісторыя — гэта ня толькі падзеі, што зьмяняюць адна адну, але, можа, нават перадусім, жыцьцё і самарэалізацыя чалавека ў кантэксьце збаўленьня, у кантэксьце стасункаў паміж Творцай і стварэньнем, стасункаў паміж Богам Айцом і чалавекам. Ідэя стварэньня ў перспектыве біблійнай гісторыі збаўленьня і ў жыцьці абранага народу займае важнае месца, бо ўказвае на крыніцу ўсяго, што існуе — Бога, Які ня толькі стварыў сьвет і чалавека, але і падтрымлівае ўсё пры жыцьці, дбае як пра сьвет, так і пра чалавека. Вось чаму факт стварэньня знаходзіцца сярод падзякі, якая належыць Госпаду. Трэба дзякаваць, бо Ён нас стварыў *(Пс 99, 3; пар. Быц 1, 27-28)*, Яго творы — добрыя *(Быц 1: 4, 12, 21, 31)*, дзівосныя *(Пс 138, 14)*, усё, што знаходзіцца на зямлі, належыць Яму *(Пс 94, 1-6)*, усё сталася па Яго загаду *(Сір 39, 15-18)*. Бог стварыў нябёсы, сонца, зямлю, кожная стыхія пакорная Яму *(Пс 135)*, кожная жывая і нежывая істота ёсьць творам Усемагутнага *(Пс 23, 1-2)*. Праз факт стварэньня Богам чалавек становіцца залежным ад Яго *(Друг 10, 14)*, Бог аберагае і дбае пра яго *(Пс 68, 31-37)*. Бог ёсьць Госпадам жыцьця кожнага чалавека. Ён блізка кожнага, хто з чыстым сэрцам шукае Яго *(Тоб 13, 6-7; Пс 118, 1-7)*.

Паралельна са сьцвярджэньнем пра стварэньне сьвету і чалавека *Псальм 94* у перспектыве падзякі паказвае асаблівыя стасункі паміж Богам і Яго народам: «Бо Ён ёсьць Бог наш, і мы — людзі паствы Ягонай і авечкі рукі Ягонай» *(Пс 94, 7)*. Падобна сьцьвярджае іншы Псальм: «Ён стварыў нас, і мы — Ягоныя, Ягоны народ і авечкі паствы Ягонай» *(Пс 99, 3)*. Бог паклікаў чалавека да жыцьця і ніколі не пакідае яго, ніколі не пакідае таксама свайго народу. Ён — Айцец, які нястомна праводзіць абраны народ на працягу яго дзеяў. Гэта ня Бог, а чалавек, які зграшыў, спрабуе адмежавацца ад свайго Творцы *(пар. Быц 3)*. Бог заўсёды ёсьць Богам верным, Богам для нас і з намі. Гэта таксама пацьвярджае Сьвятое Пісаньне: «Я — Госпад Бог іхні, ад сёньня і далей» *(Ез 39, 22)*. Бог заўсёды абараняў і будзе абараняць чалавека *(пар. Друг 33, 12)*, заўсёды яго будзе весьці *(пар. Іс 58, 11)*. Госпад Бог ёсьць Валадаром свайго народу назаўсёды *(пар. Міх 4, 7)*, Ён заўсёды верны чалавеку *(Друг 7, 9)*. Бог ёсьць Богам міласэрным і ласкавым, доўгацярплівым, шматлітасьцівым і верным *(Пс 85, 15)*. Падобна і ад чалавека Госпад патрабуе паставы навяртаньня, вернасьці, даверу Яму: «Будзь Яму верны, а Ён зоймецца табою, выпростуй свае шляхі і даверся Яму» *(Сір 2, 6)*. Перспектыва багатага блаславенства, любові і апекі ад Бога патрабуе ад чалавека паставы падзякі. Трэба дзякаваць за тое, што Бог яго стварыў, ёсьць з ім, што вядзе яго й не пакідае. Трэба дзякаваць, бо любоў Бога да чалавека такая вялікая, што Ён пасылае Сына, каб кожны чалавек меў магчымасьць збаўленьня і вечнага жыцьця *(Ян 3, 16)*.

Народ Божы ёсьць народам абраным. Ідэя «абраньня» разьвіваецца ў Старым Запавеце амаль ад першых разьдзелаў кнігі Быцьця. Старазапаветныя апісаньні дзеяў чалавецтва і абранага народу няспынна зьвяртаюцца да ідэі «абраньня». Бог абірае Авеля *(Быц 4, 4)*, абірае Эноха *(Быц 5, 24)*, абірае Ноя *(Быц 7, 1)*, абірае таксама Сіма *(Быц 9, 26)*. У асобе Абрагама Бог кліча й абірае сабе адзін народ *(Быц 12, 1-8)*. Кліча таксама людзей, якім давярае асаблівую місію: гэта прарокі, сьвятары і лявіты, каралі. Часта чалавек абраны зьяўляецца аднachасова слугою Бога Найвышэйшага. Гэта Ізраіль ёсьць «Яго народам» *(Вых 3, 10)*. Як народ Божы, Ізраіль павінен захоўваць Яго запаветы: «Калі вы будзеце слухаць голасу Майго і шанаваць запавет Мой, дык будзеце Маім скарбам з усіх народаў, бо Мая ўся зямля, а вы будзеце ў Мяне царствам сьвятароў і народам сьвятым» *(Вых 19, 5-6)*. На працягу дзеяў абранага народу Госпад верны заключанаму з народам запавету. Ён патрабуе таксама гэтага і ад свайго абранага народу, патрабуе гэтага ад чалавека, канкрэтнай асобы.

Тут маем дачыненьне з асаблівымі стасункамі, якія паўстаюць паміж Богам і чалавекам. Плён гэтых стасункаў становіцца для Яго народу прадметам падзякі. Пастава падзякі ў сьвятле тэкстаў Старога Запавету — гэта завязваньне стасункаў, дыялогу з Богам. Уласна гэта складае сутнасьць старазапаветнай малітвы падзякі. Падзяка складаецца за гісторыю збаўленьня: гісторыю жыцьця народу Божага са сваім Творцам, стасункі чалавека са сваім нябесным Айцом. Падзяка складаецца за тое, што Бог ёсьць нашым Богам — Богам, які апякуецца сваім народам, ёсьць Богам для чалавека і з чалавекам.

* Працяг, пачатак у №1 (40), 2004

# Разважаньні на Ружанец

**_Абудзі, мая цытра, свае песьні ў гонар Дзевы Марыі!
Узьнясі голас і засьпявай гімн Гары Давідавай, што нарадзіла Жыцьцё_**
СЬВ. АХРЭМ СІРЫЙСКІ

*Улюбёныя ў Госпадзе браты і сёстры!*

*У мінулым нумары мы зьмясьцілі разважаньні на радасныя таямніцы малітвы Ружанцу, (частка I; яе прамаўляем у панядзелак і суботу). Гэтым разам падаем разважаньні да нядаўна ўстаноўленых таямніцаў сьвятла (частка IV Ружанцу), над якімі разважаем у чацьвер. У такой пасьлядоўнасьці падаем іх у газеце з той прычыны, што яны перадаюць лагічны цяг падзеяў зямнога жыцьця нашага Госпада і Збаўцы згодна з апісаньнямі Евангельляў. У наступных нумарах будуць зьмешчаны разважаньні на астатнія дзьве таямніцы Ружанцу: балесныя (адгаворваюцца ў аўторак і пятніцу) і слаўныя (серада і нядзеля).*

*Да кожнае таямніцы падаем адпаведны ўрывак з Евангельля, тэкст Сьвятых Айцоў (альбо іншых царкоўных аўтараў пераважна з I-VII стст.), малітву з царкоўнай багаслужбовай традыцыі (пераважна гэта трапары і кандакі, якія сьпяваюцца ў нас падчас Боскае Літургіі) і кароткае падсумаваньне, якое хутчэй можна назваць намерам, у якім можна памаліцца. Выкарыстоўваць гэтыя чатыры часткі разважаньняў можна так, як вам будзе зручней: можна браць толькі нешта адно, напрыклад, малітву ці Евангельле, падчас кожнае таямніцы; можна браць па 2 альбо 3 элементы (напрыклад, напачатку Евангельле, а пасьля тэкст Сьвятых Айцоў); можна браць і ўсе 4 часткі разважаньняў, пры чым у той пасьлядоўнасьці, якая вам больш адпавядае, а неабавязкова так, як падаем мы. Гэтая малітва залежыць ад вас, бо гэта — Вашая малітва.*

*Спадзяемся што гэтыя тэксты дапамогуць вам у вашым жыцьці з Богам.*

**Алесь АЎДЗЯЮК**

## Частка IV. Таямніцы сьвятла

### 1. БОГАЗЬЯЎЛЕНЬНЕ (ХРОСТ ІСУСА Ў ЯРДАНЕ)

***I. Евангельле Мц 3:13-17***

***II. Тэкст Айцоў***



«Госпад, Які кіруе нашым жыцьцём, склаў з намі запавет хросту, што зьяўляецца вобразам сьмерці й жыцьця. Вада ў ім азначае сьмерць, а задатак жыцьця [вечнага] падае Дух. (...) «Бо хрост — не [звычайнае] абмываньне бруду цела, але просьба пра добрае сумленьне, скіраваная да Бога» (1 Пт 3:21). Таму Госпад [як бы ў адказ на гэтую просьбу] жадае падрыхтаваць нас да жыцьця ва ўваскрасеньні і вучыць нас, як трэба жыць паводле Евангельля: ня гневацца, цярпець людзей нядобрых, быць чыстымі ад пажадлівасьці і вольнымі ад хцівасьці. Гэткім чынам з вольнага выбару [ужо зараз] будзем захоўваць усё тое, што стане для нас цалкам натуральным у будучым жыцьці.

Дух Сьвяты вяртае нас да Раю, адчыняе нам брамы нябёсаў і чыніць нас зноў дзецьмі Божымі. Дзякуючы Яму, можам з даверам называць Бога нашым Айцом, удзельнічаць у ласцы Хрыстовай і называцца сынамі сьвятла... Адным словам, праз Яго атрымліваем усе блаславеньні гэтага веку й веку будучага, і ўжо цяпер у сабе, як у люстэрку, можам аглядаць усё тое, што нам абяцана і чаго праз веру чакаем...»

/СЬВ. ВАСІЛЬ ВЯЛІКІ/

***III. Малітва — Трапар сьвята (Тон 4)***

*Калі Ты, Госпадзе, хрысьціўся ў Ярдане, адбылося пакланеньне Тройцы. Голас Айца засьведчыў аб Табе, называючы Цябе любым Сынам; і Дух у выглядзе голуба пацьвердзіў праўдзівасьць гэтых слоў. Хрысьце Божа, які зьявіўся нам і сьвет асьвяціў, слава Табе.*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы Хрост Госпада нашага Ісуса Хрыста ў Ярдане і дабраахвотнае прыняцьце на Сябе нашых грахоў, прыглядзімся да свайго жыцьцёвага шляху, пачынаючы ад сьвятога хросту і да дадзенага моманту, на вялікасьць і колькасьць нашых грахоў — гэтых нашых адыходаў ад навукі Госпада, на нашу слабасьць у прагненьні чыніць дабро і ўнікаць злога. Але скіруем разам з тым позірк на веліч Божага прабачэньня, усёдаравальнасьці й міласэрнасьці, што адкрываюцца нам у Тайне Сьвятой Споведзі.

Памолімся, каб усе хрысьціяне рэгулярна й як мага часьцей прыступалі да гэтай Тайны, ачышчалі ў ёй свае сэрцы і сумленьне, прымалі ласку адпушчэньня грахоў, павярталіся да стану абраных дзяцей Божых і ўзмацняліся Божай Любоўю, годна падыходзячы да Сьвятога Прычасьця.

### 2. ПЕРШЫ ЦУД ІСУСА НА ВЯСЕЛЬЛІ Ў КАНЕ

***I. Евангельле Ян 2:1-12***

***II. Тэкст Айцоў***

«Патрэбна нам цяпер распавесьці пра першы цуд, учынены ў Кане Тым, Хто калісьці раней ужо паказаў егіпцянам і габрэям моц цудаў Сваіх, бо тады перамяніў у кроў ваду [Нілу], а цяпер, на вясельлі, зноў зьмяніў яе Той, Хто ўсё з мудрасьцю ўчыніў. (...) Перамяніў Хрыстос ваду ў віно, і ўвесь люд ўзрадаваўся й цешыўся ягоным цудоўным смакам. Сёньня ж да стала сьвяточнага ў Царкве сядаюць усе. На ім перамяняецца віно ў кроў Хрыстову, і спажываем яе са сьвятою радасьцю.

Сьвяты і найвялікшы Збаўца ўсіх, захавай бяз зьмены [гэтае] віно, якое ў нас ёсьць, бо Ты ўсім валадарыш...

Ты, што Сваёю моцай [у Кане] перамяніў ваду ў віно, перамяні, дзякуючы Багародзіцы, у радасьць засмучэньне нашае, што паходзіць ад грахоў нашых, Хрысьце Божа, Які ўсё ўчыніў з мудрасьцю».

/СЬВ. РАМАН МІЛАСЬПЕЎЦА/

***III. Малітва — Трапар Жыровіцкай іконы Маці Божае (Тон 4)***

*Усіх, што прыбягаюць да цудатворнага вобразу Твайго, шукаючы дапамогі, Ты, Уладарка, не адкінь ад Сябе, але ў суме суцеш і плач на радасьць перамяні: Табе адной нашы цяжкасьці вядомыя, на Цябе спадзяемся. Крыніца міласэрнасьці, Умацаваньне і Ахова душаў нашых.*

***IV. Кароткае разважаньне***



Узгадваючы першы цуд Госпада нашага Ісуса Хрыста, які Ён учыніў па просьбе Багародзіцы на вясельлі ў Кане Галілейскай, памолімся за ўсе маладыя сем'і і тых, хто толькі зьбіраецца ўзяць шлюб. Няхай яны плануюць і будуюць сваё супольнае жыцьцё згодна з навукай Евангельля: у любові, малітве, доўгацярплівасьці, паслухмянасьці адзін аднаму і Госпаду. Няхай яны зразумеюць, што сям'я — гэта школа каханьня і любові, у якой, яднаючыся духам, душой і целам, яны робяцца адным цэлым перад Богам і людзьмі на ўсё сваё жыцьцё. Незабывайма, што кожная сям'я — гэта ячэйка і «хатняя Царква», якая павінна мець сваю супольную малітву, што аб'ядноўвае бацькоў і дзяцей і дапамагае ім вытрываць на сваёй дарозе да Бога, Які заўсёды будзе бласлаўляць іх і адорваць Сваёй ласкай.

### 3. АБВЯШЧЭНЬНЕ ВАЛАДАРСТВА БОЖАГА І ЗАКЛІК ДА НАВЯРТАНЬНЯ

***I. Евангельле Мц 5:1-12,17-20***

***II. Тэкст Айцоў***

«Блаславёныя чыстыя сэрцам, бо яны ўбачаць Бога». Здаецца мне, што гэтыя цудоўныя

словы абяцаюць чалавеку з чыстым сэрцам ня толькі сузіраньне Бога як бы тварам у твар [у жыцьці вечным], але хутчэй падаюць нам [яшчэ] іншую магчымасьць, на што выразна ўказваюць такія словы: «Валадарства Божае ў вас ёсьць», і такім чынам вучаць нас, што калі хтосьці ачысьціць сваё сэрца ад усіх стварэньняў і ўсялякай неўласьцівай прывязанасьці, то ў той жа момант у сваёй асабістай прыгажосьці ўбачыць адбітак Божай натуры...

Падобна да тых, што аглядаюць сонца ў люстэрка і, хаця не глядзяць у неба, але ў бляску люстэрка бачаць ня горш за тых, што глядзяць беспасрэдна на сонца, таксама й вы,— як бы кажа Збаўца,— хоць і не хапае вам сілаў, каб пабачыць і аглядаць сьвятло недаступнае, але калі зьвернецеся да прыгажосьці адбітку, які ў вас ёсьць ад пачатку, у саміх сабе знойдзеце тое, чаго шукаеце.



Чыстасьць, вольнасьць ад заганаў і пажадлівасьці, пакіданьне ўсяго благога належаць да натуры Божай. Калі ўсё гэта ёсьць у табе, тады з пэўнасьцю ў табе ёсьць Сам Бог».

*/Сьв. Рыгор Ніскі/*

***III. Малітва — Кандак Нядзелі расслабленага (Тон 3)***

*Душу маю, дашчэнту зьнясіленую ўсякімі грахамі і благімі ўчынкамі, узьнімі Тваім Боскім заступніцтвам. Госпадзе, як Ты некалі ўзьняў расслабленага, каб я, будучы збаўленым, мог усклікнуць Табе: Слава, міласэрны Хрысьце, уладзе Тваёй.*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы абвяшчэньне Евангельля і Валадарства Нябеснага, прыгадаем сабе словы Госпада нашага Ісуса Хрыста адносна дзяцей: «Не перашкаджайце ім прыходзіць да Мяне, бо такім належыць Валадарства Нябеснае». Мы таксама ў нашым жыцьці мусім ня толькі не перашкаджаць, але нават маем абавязак перад Богам дапамагаць нашым дзецям у дарозе да Яго.

Памолімся, каб кожны бацька й кожная маці клапаціліся пра духоўнае выхаваньне сваіх дзяцей: выхоўвалі самі і аддавалі ў нядзельныя школы. Таксама памолімся за ўсіх настаўнікаў у гэтых школах, каб Госпад асабліва паблаславіў іх ахвярную працу, а таксама памолімся і за тое, каб супольнымі намаганьнямі бацькоў і сьвятароў нядзельныя школы ствараліся і ў тых парафіях, дзе іх яшчэ няма.

## 4. ПЕРАМЯНЕНЬНЕ ГОСПАДА НА ГАРЫ ФАВОР

***I. Евангельле Мц 9:2-13***

***II. Тэкст Айцоў***

«Ісус аб'явіў гэтую таямніцу на гары Фавор, калі вандраваў разам з Апосталамі і вучыў аб валадарстве і Сваім паўторным прыйсьці ў славе. У іх, аднак, як здаецца, не было веры ў тое, што Ён гаварыў ім пра валадарства. Вось жа



дзеля таго, каб яны прынялі гэтую навуку ўсім сэрцам, каб падзеі цяперашнія дапамаглі паверыць у будучыя, Ісус і паказаў дзіўнае Сваё Боства на Фаворы як запавет і вобраз Валадарства Божага...

Да гэтае гары [сузіраньня Бога] і нам трэба імкнуцца... Пабяжым да яе з даверам і радасьцю, увойдзем у воблака падобна да Майсея і Ільлі, падобна да Якуба і Яна... і зьвернемся да Творцы, да Якога Пётр гаварыў у захапленьні: «Госпадзе, добра нам тут быць». Несумненна, Пётра, сапраўды «добра нам быць тут» з Ісусам і застацца тут назаўсёды. Што можа быць больш узьнёслае, больш вялікае, чым быць з Богам, станавіцца да Яго падобным і знаходзіцца ў Ягоным сьвятле? Вось кожны з нас, маючы Бога ў сваім сэрцы, перамененыя на вобраз Божы, няхай заклікае з радасьцю: «Добра нам тут быць», дзе ўсё перапоўнена сьвятлом, дзе пануе шчасьце, вясельле й радасьць, дзе ўсё ў нашым сэрцы ёсьць супакоем, дабром і слодыччу, дзе сузіраем Бога [Хрыста], дзе Ён Сам разам з Айцом рыхтуе для Сябе памяшканьне, прыходзіць і кажа: «Сёньня дому гэтаму прыйшло збаўленьне».

*/Сьв. Анастас Сінаіт/*

***III. Малітва — Кандак сьвята (Тон 7)***

*Перамяніўся Ты на гары, Хрысьце Божа, і вучні Твае ўбачылі славу Тваю, наколькі ім магчыма было, каб пасьля, убачыўшы Цябе ўкрыжаванага, маглі зразумець дабравольныя Твае цярпеньні і сьвету аб'явіць, што Ты — сапраўднае зьзяньне Айца.*

***IV. Кароткае разважаньне***

Узгадваючы Перамяненьне Госпада нашага на Фаворы, паглядзім на апосталаў, якія ўсьцешыліся, калі пабачылі яўна Ягоную Боскасьць. Зьвернем таксама ўвагу на тое, што ўсе людзі на сьвеце, і вернікі, і тыя, што ня вераць, у сваім жыцьці перажываюць моманты, калі асабліва патрабуюць Бога, калі пачынаюць Яго шукаць. Часта спрабуюць знайсьці Яго ў Ягоных вучнях, якімі ёсьць мы, хрысьціяне, але, сустракаючы нас, не заўсёды могуць пабачыць у нас Бога: ня бачаць Яго ў нашым твары, у нашых вачах не заўважаюць Ягонага адбітку, ня бачаць Яго ў нашых учынках і словах...

Памолімся за нашае асабістае перамяненьне: за перамяненьне нашага сэрца й розуму, зроку і мовы, прывязанасьцяў і пачуцьцяў. Памолімся, каб у нашым жыцьці асабістым і ў нашых стасунках з іншымі панавалі любоў, цярплівасьць, міласэрнасьць і лагодная ўсьмешка. Бо толькі тады ў нас пазнаюць вучняў нашага Збаўцы і Госпада, калі будзем мець любоў паміж сабою, бо Ён ёсьць Любоўю.

## 5. УСТАНАЎЛЕНЬНЕ ЕЎХАРЫСТЫІ

***I. Евангельле Мц 26:20, 26-30 (Лк 22:14-26)***

***II. Тэкст Айцоў***

«...Гэтую ежу мы называем Еўхарыстыяй, і толькі той можа ўдзельнічаць у Ёй, хто верыць нашай навуцы, хто прыняў хрост на адпушчэньне грахоў і праз гэта нарадзіўся паўторна, і хто так жыве, як навучыў нас Хрыстос. Бо не спажываем гэтую ежу, як звычайны хлеб альбо звычайны напой. Не! Але падобна таму, як Слова Божае і наш Збаўца Ісус Хрыстос стаў чалавекам і прыняў цела й кроў дзеля нашага збаўленьня, таксама і ежа, якая сталася Еўхарыстыяй праз малітву, што ўключае Ягоныя ўласныя словы, ажыўляе, дзякуючы [гэтай] перамене, нашыя цела і кроў. Ежа гэтая, як пераказана нам у навуках, ёсьць сапраўды Цела і Кроў уцелаўлёнага Ісуса.

Апосталы, у напісаных імі ўспамінах, г. зн. Евангельлях, падалі нам, што такі наказ атрымалі ад Ісуса, Які ўзяў хлеб, склаў падзяку і сказаў: «Чыніце гэта на Мой успамін. Гэта ёсьць цела Маё». Падобна ўзяў келіх, падзякаваў і сказаў: «Гэта ёсьць кроў Мая». І раздаваў толькі ім самім.

Ад таго часу й мы чынім гэта на Ягоны ўспамін. У дзень, названы Днём Сонца [г. зн. Нядзеля], зьбіраемся ўсе разам у адным месцы, ці ж то з горадоў, ці таксама з вёсак. (...)

Тады чытаем Успаміны Апостальскія альбо Пісаньні Прарокаў, прычым столькі, наколькі час дазваляе. (...) Потым мы ўстаем і молімся. (...) А пасьля гэтага (...) усім прысутным раздаецца і разьдзяляецца тое, што сталася Еўхарыстыяй. (...)

Зьбіраемся ж у Дзень Сонца менавіта таму, што ў тым дні (...) наш Збаўца Ісус Хрыстос уваскрос».

*/Сьв. Юстын Філосаф/*

***III. Малітва — Трапар Багародзічны з ютрані сьв. Язафата***

*Багародзіца, Ты — Сапраўдная вінаградная лаза, што ўзрасьціла нам плод жыцьця. Просім цябе, Уладарка: разам са сьвятымі апосталамі маліся за збаўленьне душаў нашых.*

***IV. Кароткае разважаньне***



Узгадваючы Тайную Вячэру ў Ерусаліме, на Якой наш Госпад Ісус Хрыстос цудоўна перамяніў хлеб і віно ў Свае Цела і Кроў і наказаў вучням зьдзяйсьняць заўсёды гэтую тайну, успомнім і іншыя Ягоныя словы пра тое, што хто спажывае хлеб гэты і п'е гэтае віно, атрымлівае жыцьцё вечнае.

Падзякуем нашаму Госпаду ў малітве за гэты каштоўны дар Ягонай бязьмернай любові да нас і за магчымасьць ужо тут, на зямлі, яднацца з Ім і напаўняцца Духам Сьвятым, а праз гэта рабіцца супольнікамі Ягонага жыцьця вечнага. Папросім у Яго асаблівае ласкі добрага ўдзелу ў кожнай Боскай Літургіі і годнага прыняцьця Сьвятога Прычасьця на працягу ўсяго зямнога жыцьця. Таксама памолімся і пра тое, каб мы маглі атрымаць ласку Сьвятое Споведзі і Прычасьця ў час нашай сьмерці, у час гэтага таямнічага пераходу да жыцьця вечнага.

Працяг на с. 10 ⇨

# Ці ёсьць у Еўропе месца для сям'і?

*Нататкі пасьля XXI Міжнароднага Кангрэсу Сям'і*

Царква і ААН абвясьцілі 2004 год Годам Сям'і. З гэтай нагоды 23-25 красавіка ў Любліне (Польшча) адбыўся XXI Міжнародны Кангрэс Сям'і, які праходзіў пад патранатам «Сусьветнай арганізацыі ў падтрымку Сям'і». Ён сабраў славутых інтэлектуалаў і сьпецыялістаў з галіны медыцыны, сацыялогіі, антрапалогіі, псіхалогіі, эканомікі, дэмаграфіі і планаваньня сям'і з усяго сьвету.

Сярод удзельнікаў гэтага форуму ў падтрымку сям'і варта адзначыць такіх асобаў, як Ганна Гранкевіч-Вальтц (Польшча) — былы старшыня Нацыянальнага Банку Польшчы, а цяпер віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага банку рэканструкцыі і разьвіцьця, якая зьвязана з харызматычнай Адновай у Духу Сьвятым; Джон М. Клінк (ЗША) — дарадца Сьвятой Сталіцы ў ААН, які, будучы дырэктарам аддзелу Каталіцкай Акцыі Дапамогі ў Тайландзе, рэалізаваў адну з найбуйнейшых у гісторыі праграм для сем'яў уцекачоў (узяў пад апеку каля 400 тысячаў уцекачоў з Камбоджы, Лаосу і Ўетнаму); Міраслаў Марыновіч (Украіна) — вядомы праваабаронца, цяпер дырэктар Інстытуту Рэлігіі і Грамадзтва, прарэктар Украінскага Каталіцкага ўніверсітэту ў Львове; Бэрнар Марджырэт (Францыя) — журналіст, які доўгі час працаваў у газетах *le Figaro* і *le Monde*, сьпецыялізуючыся на краінах Усходняй Еўропы, а цяпер — кіраўнік арганізацыі "Міжнародны камунікацыйны форум"; Мэрсэдэс Арзу Ўілсан (ЗША) — заснавальніца і прэзідэнт Амерыканскай фундацыі Сям'і і Сусьветнай арганізацыі ў падтрымку Сям'і, аўтарка ўнікальнай праграмы натуральнага планаваньня сям'і; а. Георгі Чысьцякоў (Расея) — выдатны праваслаўны сьвятар, які шмат займаецца катэхізацыяй дарослых, пасьлядоўнік ідэяў а. А.Меня, а таксама прафесар Каталіцкага інстытуту сьв. Тамаша Аквінскага; тэолаг Зьбігнеў Насоўскі (Польшча) — галоўны рэдактар часопіса «Więź», кансультант Папскай Рады па справах Сьвецкіх і шмат іншых.

Але на Кангрэсе кожны з удзельнікаў прадстаўляў яшчэ, а, можа, і ў першую чаргу, уласную сям'ю, дзяліўся досьведам у будаваньні стасункаў у сужэнстве, выхаваньні і апецы дзяцей... Таму атмасфера форуму, які праходзіў пад дэвізам «СЯМ'Я — СУПОЛЬНАСЬЦЬ ШЧАСЬЦЯ» была адметна сваёй утульнасьцю і спакоем — той атмасферай, што выдзяляе дамы шчасьлівых сем'яў, нягледзячы на тое, што праблемы, узьнятыя на Кангрэсе, былі далёка няпростыя. У Заходняй Еўропе, праз недаацэнку грамадзкай ролі сям'і, у апошнія гады адбыліся небясьпечныя зьмены, якія паставілі грамадзтвы ў складаную сітуацыю: маладая частка папуляцыі недастаткова вялікая, каб выпрацаваць сродкі, неабходныя для ўтрыманьня старой часткі грамадзтва і замяніць пакаленьне, што адыходзіць. Коратка кажучы — Еўропа вымірае. Таму лейтматывам Кангрэсу было пытаньне, пастаўленае рубам 11-14 чэрвеня 2003 году Еўрапейскай Камісіяй Епіскапатаў: «Ці ёсьць у Еўропе месца для сям'і?»

Кожны даклад ці паведамленьне, якія гучалі ў зале Кангрэсу, можна было без ваганьняў суаднесьці з сучаснай сацыяльнай сітуацыяй у Беларусі.

Кацярына Генева (Расея) паказала праблемы сучаснай расейскай сям'і як вынік генацыду ў адносінах да нацыі ў XX і пачатку XXI стагоддзя і «грэху Царквы Праваслаўнай», якая беспадстаўна карыстаецца выключным становішчам, але амаль нічога не зрабіла для ўмацаваньня інстытуту сям'і. Без сумніваў, жудасная лічба чалавечых стратаў, пададзеная расейскім навукоўцам (каля 80 мільёнаў чалавек з улікам сучасных вынішчэньняў народу Чачэніі), уключае таксама страты народаў былога СССР.

Жудасныя страты панесла й наша Беларусь, насельніцтва якой пачало скарачацца, і цяпер яно ўжо менш за 10 мільёнаў. Страшэнны ўдар па беларускай нацыі быў нанесены ў 30-40-ыя гады XX стагоддзя. Няма такой сям'і, якая б не пацярпела, бо за часы Другой сусьветнай вайны, як вядома, з улікам даваенных і пасьляваенных рэпрэсіяў ды ўцекачоў з "савецкага раю", наша краіна згубіла трэць свайго насельніцтва! Да гэтага дадалася яшчэ й экалагічная катастрофа ў Чарнобылі, у выніку якой каля 30% карэннага насельніцтва нашай краіны апынулася на забруджанай тэрыторыі. Усё гэта значыць, што каля 5 млн. беларусаў не нарадзіліся, а астатнія маюць паважныя праблемы са здароўем і нараджэньнем дзяцей.

На гэтым фоне шмат трагічней, чым у Еўропе, выглядае ў Беларусі сітуацыя з самотнасьцю сучасных маладых людзей, якія ня ўмеюць прымаць жыцьцёвыя рашэньні аб стварэньні сям'і. У сувязі з гэтым значна павялічыўся спад колькасьці насельніцтва Беларусі. І гэта пры захаваньні афіцыйнага дазволу на правядзеньне аперацыі па спыненьні цяжарнасьці (т. зв. абортаў). У выніку такой дэмаграфічнай палітыкі няспынна расьце колькасьць паталогіяў пры цяжарнасьці, што спрыяе павелічэньню колькасьці маладых бясплодных жанчынаў. Сярод шматлікіх прычынаў такой сітуацыі выдзяляюцца найперш досьвед, вынесены з бацькоўскае сям'і, дрэннае выхаваньне і адукацыя, слабая сацыяльная абарона сем'яў, беспрацоўе, эканамічны крызіс у краіне.

Удзельнікі Кангрэсу з Аўстрыі, Бельгіі, Галандыі, Польшчы, Францыі, ЗША, дзе ўзровень дабрабыту значна вышэйшы за беларускі, таксама выразна акрэсьлівалі праблему няўвагі дзяржавы да праблемаў сужэнства, сям'і, малазабясьпечаных і шматдзетных сем'яў. У высновах Еўрапейскай Камісіі Епіскапатаў было заўважана, што ў еўрапейскіх краінах шматдзетныя сем'і практычна дыскрымінаваныя ў параўнаньні з бязьдзетнымі парамі і асобамі самотнымі.

## Разважаньні на Ружанец

⇨ Заканчэньне са с.8-9

**КАРОТКАЯ ІНФАРМАЦЫЯ ПРА АЎТАРАЎ ТЭКСТАЎ:**

***• Сьв. Васіль Вялікі (329-379)***

Адзін з найвыдатных багасловаў і Сьвятых Айцоў Царквы. Быў манахам на пустыні, потым пакліканы на біскупа Кесарыі ў Кападокіі. Разам з біскупамі Рыгорам з Нісы і Рыгорам з Назіянзу змагаўся з гарэзіяй арыянаў (якія аспрэчвалі Боства Ісуса Хрыста). Вельмі клапаціўся пра ўбогіх. Напісаў шмат кніг, пасланьняў і духоўных лістоў.

***• Сьв. Раман Міласьпеўца (канец V - першая палова VI ст.)***

Самы вялікі візантыйскі царкоўны паэт. Аўтар шматлікіх прыгожых духоўных гімнаў, трапароў і кандакоў, якія сьпявае Царква і да гэтага часу (у тым ліку трапар Раства Хрыстовага). Яму ж прыпісваюць аўтарства першага (і галоўнага) Акафісту да Найсвятой Багародзіцы.

***• Сьв. Рыгор, біскуп Нісы (каля 335 - 394)***

Выдатны грэцкі багаслоў, філосаф і містык. Брат сьв. Васіля Вялікага і ягоны блізкі супрацоўнік ды памочнік. Напісаў трактат «Пра хрысьціянскую дасканаласьць» і склаў адзін з першых сістэматычных выкладаў навукі Царквы.

***• Сьв. Анастас Сінаіт (каля 640 - каля 700 г.)***

Манах з манастыра на гары Сінай, дзе ігуменам быў сьв. Ян Лесьвічнік. Вядомы быў палемічнымі творамі, у якіх бараніў навуку Царквы ад манафізітаў і іншых гарэзіяў. Пісаў таксама пра тэалогію манаскага жыцьця.

***• Сьв. Юстын Філосаф (каля 100 - каля 166)***

Грэцкі пісьменьнік, вядомы таксама як Юстын Мучанік. У пошуках праўды вывучаў розныя філасофскія кірункі, але ўрэшце знайшоў яе ў Хрысьце. Бараніў у сваіх кнігах навуку хрысьціянаў перад Рымскім імператарам і паганамі і пацьвердзіў яе праўдзівасьць, аддаўшы за яе сваё жыцьцё.

У Беларусі ж амаль усе маладыя сем'і, якія вырашаюць даць новае жыцьцё, адразу трапляюць пад фінансавы ціск. Кошт дзіцячага харчаваньня, адзеньня, неабходных вітамінаў і лекаў значна перавышаюць бюджэт маладой сям'і, у той час як датацыя дзяржавы па догляду за дзіцем не перавышае 70 тысячаў рублёў (каля 33 даляраў). Тут трэба заўважыць, што ў Беларусі маладыя сем'і да таго ж часьцей за ўсё пражываюць у нанятым памяшканьні ці ў адным пакоі інтэрнату, аплата за якія даходзіць да 100 тысячаў рублёў у месяц. Як наступства гэтай сітуацыі — пагаршэньне стасункаў паміж сужонкамі. Зважаючы на гэтыя фактары, маладыя беларускія бацькі сёньня рэдка адважваюцца мець другое і трэцяе дзіця. З цягам часу наступае ў сям'і стан, які можна акрэсьліць «самотнасьцю ў сужэнстве». Усё гэта прыводзіць да пагаршэньня сямейных адносінаў, да нестабільнасьці сям'і.

«Месца мужа і бацькі нельга замяніць»,— сьцьвярджаў у сваім выступе бацька трох дарослых дзяцей Яцак Мыцельскі (Галандыя) — сябра ўправы Саюзу Польскіх кавалераў Мальтыйскага ордэну, які да таго ж шмат апекуецца непаўналетнімі. Сямейныя клопаты не перашкодзілі яму, інжынеру-сьпецыялісту ў галіне інавацыйных тэхналогіяў, зрабіць добрую кар'еру ў канцэрнах *DSM і Du Pont*. Дарэчы, ягоная жонка, Яланта Бісьпінг-Мыцельска — адзін з арганізатараў Кангрэсу Сям'і — таксама моцна заангажавана ў дзейнасьць розных міжнародных арганізацыяў у падтрымку сям'і. Яцак Мыцельскі напісаў кнігу «Азбука для бацькоў», перакладзеную на многія мовы, у якой падзяліўся ўласным досьведам сямейнага шчасьця ў выхаваньні дзяцей.

Хрысьціяна фон Габсбург з Аўстрыі — лекарка па прафесіі, маці трох дзяцей, бабуля, удзельніца Апостальскага руху *"Regnum Christi"* і сябра Папскай Рады па справах Сьвецкіх. Яна моцна заангажавалася ў працу з жанчынамі ў адказ на заклік Сьвятога Айца па-новаму асэнсаваць фемінізм у Трэцім тысячагоддзі. Свой выступ на Кангрэсе яна прысьвяціла менавіта гэтай тэме: «Жанчына: кім ты ёсьць у XXI стагоддзі?»

Побач з шырокавядомымі праблемамі, такімі, як наркаманія і алкагалізм, самай распаўсюджанай праблемай сучаснай сям'і, усе ўдзельнікі Кангрэсу ў падтрымку Сям'і называлі... працагалізм. Прафесійная занятасьць бацькоў і клопат пра кар'еру ў час падрастаньня дзяцей у прамым сэнсе забіваюць сям'ю. Чым больш бацькі працуюць, тым больш аддаляюцца і ад дзяцей і адзін ад аднаго. Выязджаючы з дому, за мяжу, на вахту ці (як у нас часам гавораць) на «шабашку» (!), бацькі пакідаюць надоўга дзяцей і свайго сужонка без штодзённай апекі, эмацыйнай падтрымкі і, варта заўважыць, сам на сам з жыцьцёвымі пакутамі і спакусамі. Самы шырокі асартымент спакусаў пастаўляюць у нашыя дамы сучасныя электронныя СМІ, доступ да іх неабмежаваны нават для самых малых дзяцей. Можна сказаць, што сучасны тэлеэкран і інтэрнэт пастаўляе ў сем'і зброю супраць сямейнага шчасьця.

Вядома, што першы крок на шляху вырашэньня праблемы — яе акрэсьленьне. Удзельнікам XXI Міжнароднага Кангрэсу ў падтрымку Сям'і ўдалося акрэсьліць сьпектр праблемаў, якія ў XX і напачатку XXI стагоддзя нанесьлі глыбокія раны інстытуту еўрапейскай сям'і, а разам з ёю — усёй цывілізацыі. Пошук спосабаў вырашэньня і само разьвязаньне праблемаў, назапашаных за мінулае стагоддзе, запатрабуюць нямала часу і вялікіх намаганьняў. Аднак тое, што напярэдадні пашырэньня межаў Еўрапейскага Зьвязу прадстаўнікі еўрапейскіх сем'яў гучна і выразна заявілі, што Еўропа ў нябясьпецы таму, што сям'я не разглядаецца палітыкамі паважна як прыярытэтная група, зьяўляецца вельмі важным крокам для пераменаў.

Невыпадкова Кангрэс у падтрымку Сям'і адбываўся пад апекай Каталіцкай Царквы. Бо кожная сям'я, запрошаная на форум, мае ўласны досьвед вырашэньня такіх шматлікіх сямейных праблемаў. І гэта досьвед хрысьціянскі. На Кангрэсе прагучалі сьведчаньні бацькоў, якія вымушаны былі стаць палітычнымі ўцекачамі і выхоўваць траіх дзяцей за мяжою, бацькоў са шматдзетных сем'яў, дактароў-хрысьціянаў, якія, дзякуючы веры, здолелі ня толькі адмовіцца ад правядзеньня абортаў, але і ўратавалі пазьней мноства дзяцей ад гэтага, чым ашчасьлівілі потым нямала бацькоў.

У апошні дзень Кангрэсу, як набат, прагучаў даклад сястры Барбары Хыровіч з Місійнага Задзіночаньня Служэбніц Духа Сьвятога *(SSpS)* — прафесара Каталіцкага ўніверсітэту з Любліна, загадчыцы катэдры Прыкладной этыкі. Тэма яе дакладу — сучасныя дыскусіі пра прыроду чалавецтва і маральныя асьпекты розных сумніўных эксьпериментаў над чалавечымі эмбрыёнамі. Яна разгледзела праблему пачатку і канца жыцьця мільёнаў чалавечых эмбрыёнаў, прыгатаваных для дасьледаваньняў. Уявіце сабе Жыцьцё ў выглядзе незапатрабаванага для эксьперыменту эмбрыёну, якое пачалося праз некалькі гадзінаў ад зачацьця і які праз 7 гадоў жыцьця ў прабірцы прыгавораны да зьнішчэньня...

XXI Міжнародны Кангрэс у падтрымку Сям'і ў Любліне закончыўся ўрачыстай падзячнай Літургіяй у касьцёле сьв. Сям'і, што на вул. Яна Паўла II. Праз тыдзень, 1 траўня 2004 году, Польшча сталася адным з сяброў Еўрапейскага Зьвязу, а яго мяжа цяпер наблізілася да Беларусі.

Кангрэс у падтрымку Сям'і адбываецца кожны год у розных краінах сьвету і, пэўна, прыйдзе час, калі распачне ён сваю працу і ў Беларусі.

**Ірына і Наталья ЛАЎРОЎСКІЯ**
*г.Берасьце*

---

*"На трэці дзень было вясельле ў Кане Галілейскай, і Маці Ісусава была там. Быў запрошаны Ісус і вучні Ягоныя на вясельле..." (Ян 2, 1-11).*

Любыя браты і сёстры!

Міжнародная Супольнасьць «CHEMIN NEUF» (*«Новая Дарога»*)

***сардэчна запрашае сем'і***
**на сесію "КАНА"**, якая мае адбыцца

**3-8 ЖНІЎНЯ 2004 ГОДУ**
**ў Друі (Браслаўскі р-н)**.

Умовы дазваляюць пражыць сесію разам з вашымі дзецьмі ад 3 да 15 гадоў, якія будуць знаходзіцца пад пільнай апекай.

*Дадатковую інфармацыю можна атрымаць ад парахаў грэка-каталіцкіх парафіяў, а таксама па тэл.* ***(8-016)-261261*** *(па панядзелках і аўторках з 16-00 да 20-00),*
***e-mail: laurouska@wp.pl.***

---

# Малітва за сем'і

## СЬВЯТОГА АЙЦА ЯНА ПАЎЛА II



*Божа, ад Якога паходзіць усялякае айцоўства*
*ў небе і на зямлі, Ойча, Які ёсьць Любоў і Жыцьцё,*
*зрабі, каб кожная чалавечая сям'я на зямлі*
*праз Твайго Сына, Ісуса Хрыста,*
*«народжанага ад нявесты», і праз Духа Сьвятога*
*рабілася сапраўдным храмам жыцьця і любові*
*для ўсё новых пакаленьняў.*
*Зрабі, каб Твая ласка кіравала думкі і ўчынкі сужонкаў*
*для дабра іх уласных сем'яў і ўсіх сем'яў на сьвеце.*
*Зрабі, каб маладое пакаленьне знаходзіла ў сем'ях моцную падтрымку*
*для сваёй чалавечнасьці і яе разьвіцьця ў праўдзе і любові.*
*Зрабі, каб любоў, умацаваная ласкаю Сакраманту Сужэнства,*
*была мацнейшая за ўсялякія слабасьці і крызісы,*
*праз якія часам праходзяць нашыя сем'і.*
*Зрабі ўрэшце - молім Цябе горача аб гэтым*
*за пасярэдніцтвам Сьвятой Сям'і з Назарэту -*
*каб Царква сярод усіх народаў зямлі магла плённа спаўняць*
*сваё пасланьніцтва ў сем'ях і праз сем'і.*
*Малітвамі Госпада нашага Ісуса Хрыста,*
*Які ёсьць Дарога, Праўда і Жыцьцё на вякі вякоў. Амін.*

# У горы і ў радасьці

Парады сямейнага псіхатэрапеўта д-ра Барбары СМАЛІНСКАЙ

**• ЦІ ІСНУЕ РЭЦЭПТ УДАЛАГА СУЖЭНСТВА?**

Сужэнства, так як і людзкое жыцьцё, занадта складанае для таго, каб хто-небудзь мог выпрацаваць універсальны рэцэпт удалага жыцьця ці шчасьлівага сужэнства. Гэта не азначае, аднак, што мы ня ведаем, чым зьяўляецца шчасьлівае сужэнства і як да яго імкнуцца. Удалае сужэнства — гэта саюз, у якім абедзьве асобы адчуваюць, што кахаюць, паважаюць, разумеюць, падтрымліваюць адзін аднаго. Гэта такі саюз, у якім сужонкі стараюцца заспакоіць патрэбы і прагненьні адзін аднаго. Яны спрабуюць быць для сябе дарам. Мусяць таксама адмовіцца ад узаемнай ідэалізацыі і вучыцца прымаць другога такім, які ён ёсьць. Каханьне — гэта ня толькі пачуцьцё, гэта будаваньне, стварэньне супольнай гісторыі жыцьця, рэалізацыя імкненьня да еднасьці і ўзаемнасьці.

**• КАЛІ НЯМА РЭЦЭПТУ ЎДАЛАГА САЮЗУ, ТО ЦІ Ў СТАНЕ МЫ ХОЦЬ БЫ НАЗВАЦЬ КРЫНІЦЫ ПРАБЛЕМАЎ У СУЖЭНСТВАХ?**

Існуе шмат крыніцаў праблемаў у сужэнстве. Я назаву некалькі з іх. Вельмі распаўсюджаным зьяўляецца блытаньне закаханасьці з каханьнем. Закаханасьць зьяўляецца захапленьнем, «падарункам» ад жыцьця, але невыпадкова гаворым пра гэты перыяд жыцьця як пра час, калі ўсё бачыцца праз ружовыя акуляры. У гэтым ёсьць і зачараваньне іншым чалавекам, і пажадлівасьць, зазвычай вельмі шмат ідэалізацыі і самазакаханасьці ды нейкага экстазу. Гэта ёсьць няпэўны стан. Каб саюз вытрываў, ён мусіць ператварыцца ў каханьне, якое, як я сказала вышэй, зьяўляецца ня толькі пачуцьцём, але й станам.

Наступная справа — гэта нашая, часта схаваная альбо несьвядомая матывацыя — ці я ўваходжу ў саюз, бо хачу зьбегчы ад уласнай сям'і альбо ад самотнасьці, ці выбіраю кагосьці, хто мае для мяне нешта прыцягальнае (напрыклад, грошы ці становішча), альбо хто нас цэніць, альбо мае стацца ідэальным бацькам, альбо, наадварот, кімсьці, каго я выратую (напрыклад, ад алкаголю, наркотыкаў). Важна таксама, каб маладыя людзі хоць трохі пасьпелі пазнаць адзін аднаго перад тым, як возьмуць шлюб. Часам пары, што ўступаюць у саюз, ведаюць адзін аднаго вельмі мала й слаба. Вядома, што час «заляцаньня» — гэта асаблівы час. Маладыя сустракаюцца ў кавярні альбо ў кіно, на шпацыры альбо на танцах. І ім цудоўна разам. Калі ўвесь час перад шлюбам абмяжоўваецца толькі супольным адпачынкам, то гэтага адназначна мала. Бо пасьля шлюбу разам пачынаюць жыць людзі, якія на самой справе ня ведаюць адзін аднаго. Нягледзячы на тое, што яны разам добра бавіліся, ведаюць пра сябе няшмат. Калі да таго ж яны мала дасьпелыя, яны не ўсьведамляюць, што людзі адрозьніваюцца ад сябе і маюць розныя патрэбы — ім становіцца цяжка быць разам. Усё больш такіх пар шукае дапамогі, бо ня могуць разабрацца з тым, што яны — розныя. Гэта для іх нешта вельмі цяжкае. Гэта звычайныя рэчы, але іх вельмі шмат. Напрыклад, аказваецца, што адзін любіць спаць пры адчыненым, а другі — пры зачыненым акне. Шмат якім парам цяжка разабрацца з такімі будзёнымі дробязямі. Такім чынам, перад шлюбам варта шмат размаўляць, каб узаемна пазнаваць сьвет сваіх каштоўнасьцяў, хто што любіць, свае звычкі, мары і жыцьцёвыя планы. Добра, калі бяруць шлюб асобы дастаткова незалежныя, якія стаяць на сваіх нагах, эмацыйна адкрытыя, адказныя за сябе, якія хочуць супрацоўнічаць, а не спаборнічаць.



Нарэшце, найбольш частай прычынай канфліктаў ужо ў шлюбе зьяўляецца тое, што людзі перастаюць паміж сабою размаўляць, а праз некаторы час і разумець адзін аднаго. Шмат пар зусім ня ўмее размаўляць паміж сабою, кожны гаворыць на ўласнай мове. Часта ў працы з сужэнствамі я параўноўваю сужонкаў з двума радыёпрыёмнікамі: адзін настроены, напрыклад, на першую праграму, а другі на трэцюю. Кожны перадае сваю ўласную праграму, магчыма, толькі павялічвае гучнасьць. Але яны зусім не чуюць адно аднаго. Ня чуюць таго, што чакаюць ад сябе. Мы часта маем лепшы кантакт з нашымі ўяўленьнямі пра другога, чым з рэальнасьцю.

Нядаўна я размаўляла з парай, якая апавядала мне пра пэўную сітуацыю. Муж даў жонцы зразумець, што зробіць ёй падарунак на дзень сьв. Валянціна. Яна таксама вырашыла зрабіць яму які-небудзь сюрпрыз. Шмат напрацавалася, пакуль знайшла ў моднай краме цудоўны швэдар. Прыгожа запакаваны, падаравала мужу. Ён памерыў, узрадаваўся, але пабачыў на сьпіне дзірку. З-за гэтага пачаўся вялікі скандал. Муж абвінаваціў жонку ў тым, што яна наўмысна купіла яму дзіравы швэдар і хацела яго гэтым падарункам раніць. Уся сітуацыя здавалася абсурднаю, але ён часта быў ранены ў жыцьці і ў гэтай сітуацыі адчуў сябе вельмі пакрыўджаным. Гэтае здарэньне паказвае, як шмат рэчаў паміж імі не было ніколі сказана і зразумета. А калі так робіцца ў сямейных адносінах, кожны повад добры, каб пасварыцца.

(Працяг будзе)

# Пільнасьць і адвага

***Адной з прыкметаў нашага часу зьяўляецца перапоўненасьць падробкамі. Купіў у краме малако — а яго нельга закіпяціць, бо скісае, набыў глушыцель для аўто — той праз год прагарэў. Вядома, дасьведчанага чалавека падмануць цяжэй. Таму кожнаму з нас патрэбна адкідваць ляноту і даверлівасьць да бліскучых абгортак ды вучыцца разьбірацца.***

Урэшце, малако можна не кіпяціць, і без аўтамабіля можна абысьціся, а вось бяз веры жыць нельга. Нават камуністы, якія сьцьвярджаюць пра сваё бязьвер'е, прымушалі нас прымаць на веру, што «учение Маркса всесильно, потому что оно верно».

XX стагоддзе дало процьму прыкладаў такой таннай веры. Гэта прыклад ня Леніна, Гітлера ці Мао, а соцень мільёнаў, якія паверылі гэтым ілжэмесіям і пайшлі гвалтаваць, рабаваць ды вучыць дзяцей, што чорнае — гэта белае «дзеля высокіх ідэалаў». Вялікая спакуса — перакласьці ўласную адказнасьць на гэтага дзядзьку, такога разумненькага ды рашучага!

На пачатку 1980-х сьвет абляцела жудасная навіна — самазванец-"прарок" з імем Хрыста падбухторыў у Гаяне колькісот даверлівых людзей на самазабойства. Я ўзгадаў гэтую трагедыю, праглядаючы фільм «Мусульманін», і пановаму пачуў словы героя фільму: «Ня хочаце маліцца — не маліцеся, ня хочаце пасьціць — не пасьціце, ня можаце верыць у Ісуса — ня верце... Але ведайце — прыйдзе сатана, і вы паверыце ў яго, бо ён вас прымусіць».

Вера ўласная патрабуе праверыць, ці не падманваюся я, або ці не дазваляю іншаму адбіраць у мяне сьвядомасьць, свабоду волі — каштоўны Божы дар.

Дык як жа чарговы раз не падмануцца, каб нашая легкавернасьць не прывяла да забабонаў — веры марнай? Мы, як хрысьціяне, верым у Ісуса Хрыста, а што да ўсяго астатняга — чалавечага — яно патрабуе ўвесь час ад кожнага пільнага сумленнага перагляду ды асабістай адказнасьці.

Важнай для маёй веры была фармацыя у Супольнасьці «Новая дарога» («Chemin Neuf»), у адным з яе цэнтраў пад Варшавай. Там пастанавіў для сябе размаўляць толькі па-беларуску ў сям'і. Там разам з жонкай навучыліся і ўжо два гады трымаемся штодзённай сумеснай малітвы. Там я па-сапраўднаму зразумеў каштоўнасьць нашай Грэка-Каталіцкай Царквы як вялікага скарбу, які зьвязвае мяне з маімі продкамі. А самае галоўнае — зразумеў, што толькі любоў, чуласьць і шчырасьць даюць права заклікаць да веры:

*— Гэтыя ўбраныя ў белыя шаты — хто, і адкуль прыйшлі? (...)*

*— Гэта тыя, што прыйшлі ад вялікае скрухі... (пар. Адкр 7, 13-14)*

Правер сваю веру ўчынкамі. Хто з нас, маладых людзей, можа сумленна сказаць пра сябе: мае ўчынкі, мой клопат, маё паслушэнства бацькам не перашкаджаюць ім паверыць

# «ДАЙСЯ ЗЛАВІЦЦА Ў СЕТКУ ЛЮБОВІ!»

***29 траўня 2004 году ў Польшчы адбылося VIII спатканьне моладзі на Ледніцкіх палях каля Гнезна. Паводле гістарычнай легенды на беразе возера Ледніца ў 865 годзе польскі кароль Мешка I хрысьціў Польшчу. У памяць пра гэтую падзею восем гадоў таму пачалі праводзіць агульнапольскія сустрэчы.***

З кожным годам колькасьць удзельнікаў мерапрыемства павялічваецца. Сёлета, па дадзеных арганізатараў, у Ледніцу прыехала 180 тысячаў чалавек. Адметнасьцю гэтага году была прысутнасьць замежных гасьцей — з Нямеччыны, Францыі, Англіі, Чэхіі, Украіны, Літвы, Беларусі. Былі сярод іх і пяць прадстаўнікоў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы (з Менску, Горадні і Ліды): Яўген Андросік, Андрэй Гайдукевіч, Максім Гуцалюк, Алесь Трафіменка і Зьміцер Чарнель.

Спатканьне распачалося ўрачыстым унясеньнем рэліквіі сьв. Войцеха і Чанстахоўскай іконы Маці Божай. Моладзь разважала над урыўкам з Евангельля паводле Яна (Ян 21), дзе гаворыцца пра лоўлю рыбаў і супольны абед уваскрослага Госпада са сваімі вучнямі на беразе Тыберыядзкага мора. Таму адным з асноўных сымбаляў спатканьня была рыбацкая сетка. Яна нагадвала нам, што ўсе мы злоўленыя Ісусам Хрыстом. Прысутныя самі зьвязалі сетку, злучыўшы вяроўкі, прывезеныя з сабой, з вяроўкамі суседзяў. Гэта быў хіба самы ўдалы ўлоў у гісторыі! Падчас гэтага «набажэнства ўдалага ўлову» моладзь дзялілася хлебам у выглядзе рыбак, якія сымбалізуюць Хрыста.

Па традыцыі адбыўся тэлемост з Ватыканам. Папа Рымскі Ян Павел II зьвярнуўся да моладзі з вітальным словам і блаславіў сустрэчу. Адметнасьцю сёлетняй сустрэчы стала тое, што было дзьве найпрасьцейшыя сувязі з Рымам. Падчас другой Сьвяты Айцец, зьвяртаючыся да моладзі, якая сабралася ў Рыме на пляцы сьв. Пятра, расказаў ім пра Ледніцкае спатканьне і запэўніў моладзь у сваёй сталай малітве.

Найважнейшым набажэнствам усяго малітоўнага чуваньня быў Экзамен Любові. Для пакланеньня быў урачыста ўнесены Найсьвяты Сакрамант, які быў зьмешчаны ў 3-метровай манстрацыі, аздобленай бурштынам. Кожнаму з нас было зададзена пытаньне Хрыста апосталу Пятру: «Ці любіш? Ці любіш Мяне? Ці любіш Мяне перадусім?» Станоўчы адказ сымбалізавала прыняцьце пярсьцёнка з выявай рыбы — сымбалем Хрыста. У гэтай частцы спатканьня засьведчылі сваю прысутнасьць тыя, хто ўсім сваім жыцьцём адказаў на заклік любові — у вялікім Паходзе Сьвятых яны несьлі харугвы са сьвятымі, таксама ішлі манахі і прадстаўнікі рэлігійных задзіночаньняў з рэліквіямі сваіх заснавальнікаў.

Таму як Пастырам зьяўляецца Хрыстос і Яго намесьнік апостал Пётр, а таксама й пераемнікі апосталаў — біскупы, таксама і ўсе мы — быццам авечкі ў статку Царквы. Як напамін пра гэта, падчас набажэнства Добрага Пастыра біскуп з авечкай на плячах падняўся да Брамы Трэцяга Тысячагоддзя ў выглядзе рыбы, што была пастаўлена на Ледніцы да 2000-гадовага юбілею хрысьціянства. Напярэдадні сьвята Зыходу Сьвятога Духа Архірэйскую Боскую Літургію адслужылі Прымас Польшчы кардынал Юзаф Глемп і Зьверхнік УГКЦ кардынал Любамір Гузар, якія таксама сумесна прачыталі малітву аб паяднаньні.

Усё спатканьне моладзі ў Ледніцы суправаджалася песьнямі й танцамі. Супольныя сьпевы застануцца ў памяці кожнага ўдзельніка мерапрыемства. Вялікае ўражаньне пакінуў удзел у самым вялікім у сьвеце хоры, які сьпяваў і таньчыў на славу Бога. На заканчэньне па традыцыі было ўрачыстае абраньне Хрыста як Госпада і Збавіцеля нашага жыцьця. Вы разам гэтага быў праход усіх удзельнікаў спатканьня праз Браму Трэцяга Тысячагоддзя.

**Андрэй ГАЙДУКЕВІЧ,**
**Зьміцер ЧАРНЕЛЬ**
*г.Горадня*

# Паломніцтва да Маці Божае Амстэрдамскае

***З 29 па 31 траўня 2004 году ў Амстэрдаме адбылася VI Міжнародная малітоўная ўрачыстасьць з нагоды цудоўных аб'яўленьняў Маці Божай, што мелі месца ў 1945-1959 гг. у гэтым старажытным горадзе Еўропы.***

Доўгі час гэтая падзея была малавядомай, але апошнім часам, дзякуючы руплівасьці біскупа Амстэрдамскага і Гаарлемскага Язэпа Пунта, набыла сапраўды міжнароднае значэньне. З усяго сьвету сюды зьязджаюцца архіпастыры, пастыры і вернікі, якія сьведчаць пра міласьць Божую па хадайніцтву Божае Маці.

Для нашага народу ўшанаваньне Найсьвятой Багародзіцы зьяўляецца глыбокім і традыцыйным, таму група беларускай моладзі з грэка-каталіцкай парафіі Ўваскрасеньня Хрыстова горада Антвэрпана, што ў Бельгіі, на чале з парахам а. Янам Майсейчыкам не змагла пакінуць гэтую ўрачыстасьць без увагі і прыняла актыўны ўдзел у сьвяткаваньнях. У першы дзень быў адслужаны Акафіст Багародзіцы ў капліцы Уладаркі ўсіх народаў перад Яе цудатворным абразом. Удзел у Сьвятой Імшы, якую адправілі 12 біскупаў і каля сарака сьвятароў трох абрадаў (лацінскага, візантыйскага і сірыйскага) даў адчуць маладым беларускім вернікам, што пражываюць цяпер у Бельгіі і Галандыі, сусьветны характар нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, якая мае братэрскую лучнасьць з такімі разнастайнымі хрысьціянскімі традыцыямі, носьбіты якіх зьяднаныя адзінаю вераю ў Хрыста Збаўцу і паслушэнствам Намесьніку апостала Пятра.

У сам дзень Сёмухі — цэнтральны для гэтае ўрачыстасьці — Боскую Літургію ўзначаліў Яго Блаславенства Патрыярх Ігнат Майсей I Дауд, прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў. Галоўнаму набажэнству папярэднічала ўрачыстая працэсія са сьцягамі народаў, якія прымалі ўдзел у сьвяткаваньнях у гонар Маці Божай. Прыемна было назіраць, як другі год запар сярод сьцягоў сусьветнай супольнасьці разьвіваўся і наш бел-чырвона-белы сьцяг, надзвычайна прыгожы і поўны хрысьціянскага зьместу: белы колер — гэта колер Божае Ласкі, якая выліваецца на наш народ праз чырвань Крыві Хрыста. У часе набажэнства наш сьцяг стаяў на горнім месцы ў алтарнай частцы, сымбалізуючы сабой безупынную малітву за нашую Радзіму і Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву. Уражвала неверагодная атмасфера спакою і малітвы, якая панавала падчас усяе ўрачыстасьці, нягледзячы на шматтысячную грамаду разнамоўнага люду. Твары людзей сьвяціліся радасьцю і запальвалі такую самую радасьць у сэрцах беларускіх паломнікаў.

Падчас сьвята пашчасьціла пазнаёміцца з братамі-паломнікамі з Украіны, якіх узначальваў Уладыка Ірыней Білык, біскуп Бучацкі. 31 траўня Уладыка Ірыней наведаў беларускую грэка-каталіцкую парафію ў Антвэрпане, маліўся ў капліцы і, ведаючы ўсе цяжкасьці жыцьця ў замежжы і ўвогуле стан Беларускае Грэка-Каталіцкае Царквы на Бацькаўшчыне, блаславіў усіх вернікаў: «Ня плачце, не рыдайце, а малецеся ды сьпявайце...»

Пасьля такой цудоўнай урачыстасьці Божае Маці, апякункі ўсіх народаў, якая дала адчуць сілу нашае Веры і моцную повязь беларускага народу праз родную Царкву з усімі цывілізаванымі народамі Еўропы, сапраўды хочацца маліцца і сьпяваць...

**а. Ян МАЙСЕЙЧЫК**

---

маім словам пра Ісуса Хрыста, каб прыйсьці разам у царкву?

Падумай, ці не таўчэшся, не зважаючы, па чужых ранах у кірзавых ботах? Ці не сьпяшаешся навязваць свае ўяўленьні і свае планы?

Не падманвай сябе, што ўсё патрэбнае ўжо зразумеў, сам набі сабе колькі гузоў, званых досьведам, і не шкадуй часу на самастойнае сумленнае разважаньне і малітву.

За ўласную веру прыйдзецца адказваць усім астатнім жыцьцём. Бо гэта — кошт сапраўднай веры.

Але, столькі разоў падмануўшыся, як жа адкрыць для веры душу ў гэтым зьняверaным сьвеце? Дзе знайсьці адвагу на гэты крок у невядомае? Такую адвагу дае нам Госпад Бог і Ягонага дзеяньня ні з чым не пераблытаеш: «Плод жа Духа — любоў, радасьць, супакой, доўгацярплівасьць, добрасьць, міласэрнасьць, вера, лагоднасьць, паўстрыманасьць» (Гал 5, 22, 23). Ці ня гэты скарб шукае кожны з нас?

І яшчэ адна парада. Не бяры на веру ніводнага майго слова, правер кожную цытату, параўнай з іншым перакладам — я не бясхібны. А калі праверыш, выпакутуеш і пераканаешся сам — гэта будзе ўжо твая вера:

*«Ці сказаў я вам пра Рэку, ці на ёй паставіў мету?*
*Ці ўзяў пробу з самародкам? — Не, ня я капаўся там.*
*Бо таму як Сам Стваральнік мне ўтрая плаціў за гэта.*
*Толькі ты дацяць ня зможаш — Лепш ідзі, рабі ўсё сам».*
*(Р. Кіплінг)*

**Сяргей ПАНАСЕВІЧ**
*г.Берасьце*



# «Адно хачу, калі я памру, каб мяне ўніят хаваў...»

**_Гэтую сваю шчырую просьбу ўніятка Ганна Ліпская з вёскі Альпень, што на Століншчыне, выказала нам, супрацоўнікам газеты «Царква», летась. Тады мы ўпершыню прыехалі, каб нарэшце сустрэцца і запісаць успаміны старых уніятаў з гэтай знакамітай палескай вёскі, падзеі ў якой знайшлі сваё адлюстраваньне ў «Пінскай шляхце» В.Дуніна-Марцінкевіча і «Уніі на Палесьсі» Вінцука Адважнага (а.Я.Германовіча). 15 траўня 2004 году Ганна Ліпская памерла. Яна была адна з тых упартых уніятаў, якія ні за што не хацелі мяняць сваю веру._**

У жніўні 2003 году Ганна Ліпская расказала нам шмат цікавага і новага пра гісторыю Уніі ў Альпені, узгадала цудоўныя беларускія калядкі і іншыя рэлігійныя песьні, якіх навучыў а. Вячаслаў Аношка. Мы спадзяваліся тады, што праз некалькі месяцаў прыедзем яшчэ, каб пагаварыць больш грунтоўна, запісаць усё для гісторыі, а найперш парупімся, каб да яе прыехаў грэка-каталіцкі сьвятар. Дзякуй Богу, гэтае абяцаньне мы выканалі — у лістападзе 2003 у Альпень па даручэньні нашага Апостальскага Візітатара архімандрыта Сяргея прыязджаў айцец Аляксандар Сапунка.

Бог адвёў Ганьне Ліпскай на гэтым сьвеце 77 гадоў жыцьця. Магчыма, яе лічылі ў вёсцы дзівачкай, але яна была простай і шчырай у сваёй веры і таму прынцыпова адмаўлялася хадзіць у мясцовую царкву, карыстацца з паслугаў Праваслаўнай Царквы. Яна ўсё сваё жыцьцё правяла ў Альпені, і, напэўна, ёй было нялёгка, бо жыла самотна, але да канца дзён сваіх яна заставалася вернай роднай Уніяцкай Царкве, у якой хрысьцілі яе і да якой належала ўся яе сям'я.

Як вядома, у 1946 годзе Саветы, пры дапамозе РПЦ, паспрабавалі ліквідаваць Грэка-Каталіцкую Царкву, але зьнішчыць веру не атрымалася — Царква жыла ў падпольлі, у сэрцах такіх адданых вернікаў, як Ганна Ліпская. І, дзякуючы такім, як яна, як яе аднавясковец, на жаль, таксама ўжо спачылы, Мікалай Ляшкевіч, сёньня мы можам сьцьвярджаць, што Грэка-Каталіцкая Царква ў Беларусі адраджаецца не на пустым месцы, яна ніколі не была цалкам зьнішчана. Мінулі дзесяцігоддзі бязбожнага рэжыму, большасьць старых альпенскіх уніятаў паўміралі, на жаль, так і не дачакаўшыся свайго сьвятара, іншыя ж, за адсутнасьцю выбару, пачалі наведваць аднаўленую мясцовую праваслаўную царкву. Але, што цікава, як толькі даведаліся пра адраджэньне Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі — адразу праявілі да гэтага жывую цікавасьць, прасілі дасылаць каталіцкую літаратуру, малітоўнікі і нават марылі пра аднаўленьне грэка-каталіцкай грамады. На жаль, сьвятароў было тады (ды й цяпер яшчэ) вельмі мала...

Калі летась Ганна Ліпская распавядала нам пра сваё дзяцінства, часы існаваньня ўніяцкай парафіі, адразу ўзгадала імя нябеснага апекуна парафіі: «Называлася капліца, можа, у гонар сьвятога Язафата, бо мы сьвяткавалі сьвятога Язафата. Ведаю, што сьв. Язафата замучылі, за Унію пацярпеў». Паказваем ёй фотаздымак альпенскай царквы: «Так, гэта наша царква, і звон гэты, такі добры быў — на ўсю вёску чуваць было. Айцец Вячаслаў Аношка ў ёй служыў. Да Аношкі ўсе хадзілі! Старшыя хадзілі і маладых прызывалі. Айца Аношку забіць хацелі Мішка і Юра... (*называе прозьвішчы — Рэд.*). Яны ці то камуністамі, ці то камсамольцамі былі яшчэ пры Польшчы. Пераходзілі мяжу да Саветаў, шпіёнамі былі. Іх потым арыштавалі па іншай справе. Аношка ехаў з Мярлінскіх хутароў да Альпеня, а яны засаду зрабілі. Аношка едзе і мужыку кажа: "Нешта ў мяне валасы ўстаюць, нешта нядобрае будзе..." І паехалі яны тады іншай дарогаю. Гэта было за год да яго ад'езду (*у 1934 г. — Рэд.*). Гэтую моладзь і бацькі, і свае баяліся. Я помню, як толькі ўступілі Саветы, Мішка бегаў па вёсцы і крычаў: "Ура!" І мы, дзеці, дурныя, сабе бегалі і крычалі "ўра".

Аношка нас вучыў па-беларуску. Дзьве гадзіны на тыдзень выкладаў у школе рэлігію. Помню быў такі выпадак. Сьвятар у школе кажа: "Хто не маліўся сёньня раніцай, хай устане". Я тады не малілася і ўстала. Так у пакуту сьвятар кажа: "На уроку стаяць будзеш". Я іду са школы, а дзеці сьмяюцца, што прызналася. Яны таксама не маліліся, але не прызналіся, а я падманваць не магу. Вось такім дзіцём была.

Аношка кожны дзень не служыў, толькі па нядзелях і па святах. Старэйшыя людзі на руканцы маліліся. Мы — дзеці малыя былі, то хадзілі ў капліцу сьпяваць. Усе ўніяцкія дзеці хадзілі. А ў Вялікі пост кожнага вечара зьбіраліся. Царкоўная сьвятліца была ў нас, мы зьбіраліся там. З капліцы потым Саветы клуб зрабілі...

На Раство а. Аношка ёлку рабіў. На свята Божага Цела працэсія ішла за сяло, аркестр граў, з харугвамі, іконамі. Усе ішлі і праваслаўныя. Начальнік паліцыі казаў: "Альпень — гэта другая Варшава". Усе ж шляхта былі. Калі Саветы прыйшлі, усе добра паапраналіся. Дык чырвонаармейцы паглядзелі і кажуць: "О, кулацкія дзеці".

Пасьля Аношкі яшчэ а. Вачынскі сталы сьвятар у нас быў. Матушка Ядзя ў яго была і дачка Ніна. Кажуць, што пайшоў да партызанаў. Сьвятары Шымкевіч і Гарошка? Я чула гэтыя прозьвішчы, але ня помню, ці былі яны ў нас. Апошні ўніяцкі сьвятар, што служыў у нас, — ці Вачынскі, ці з Мярлінскіх хутароў манах прыязджаў, ён маленькі ростам быў і яшчэ лячыў людзей».

Апошні раз, як распавядала нам Ганна Ліпская, каталіцкі сьвятар быў у Альпені недзе пасьля вайны: «Ксёндз апошні раз у нас служыў. Прыязджаў з Пінску, служыў ён па-польску. Гэта быў 1946 ці 1947 год. З маладых я хіба адна была на споведзі, а так былі старэйшыя людзі. Калі я была на споведзі ў рыма-каталіцкага сьвятара, што з Пінску прыязджаў, ён мне напасьледак сказаў: "Да споведзі да праваслаўных ня йдзі, сваёй веры трымайся". Ён ужо ведаў, што царкву нашу закрыюць. З тых часоў я ў царкве і не была, і да споведзі не хадзіла. А Царкву я не адвяргаю, дома малюся: "Ойча наш", "Багародзіца", "Верую", шмат ведаю іншых малітваў, нават малітву Целу і Крыві Госпада. Яе ад суседкі перапісала — вы ёй дасылалі. Да праваслаўных не іду. Ня ведаю, як атрымаецца са споведдзю, адно я хачу, калі я памру, каб мяне ўніят хаваў. Я не хачу, каб праваслаўны бацюшка хаваў». З успамінаў ксяндза Станіслава Рыжко вядома, што менавіта ён быў тады нелегальна — без дазволу савецкіх уладаў — у Альпені. На жаль, дакладнай даты і ён не падае — 1946-1948 гг. Вось жа больш за 50 гадоў Ганна Ліпская ня мела магчымасьці паспавядацца і прычасьціцца ў сваёй роднай Царкве. Але гэтая простая самотная вясковая жанчына ўвесь час малілася, верыла і чакала. І абяцаньне захаваць сваю веру праз усё жыцьцё яна выканала.

Айцу Ігару Кандрацьеву, параху грэка-каталіцкай парафіі ў Берасьці, апошнюю просьбу Ганны Ліпскай, якая перад сьмерцю вельмі прасіла, каб пахавалі яе менавіта грэка-каталіцкі сьвятар, суседзі-альпенцы перадалі па тэлефоне. Магчыма, трохі сумняваліся, што так далёка — за 300 км — пагодзіцца ехаць сьвятар дзеля нейкай простай жанчыны. І хоць гэта быў канец тыдня, калі зазвычай айцец Ігар сапраўды мае шмат душпастырскай працы (абслугоўвае, акрамя Берасьця, грэка-каталіцкія грамады ў Пінску і Івацэвічах), а ў берасьцейскай парафіі ў гэты час адбываліся да таго ж рэкалекцыі, давялося мяняць усе планы, шукаць сьвятара, які б адслужыў Літургію ў Івацэвічах і тэрмінова ехаць у Альпень, каб выканаць апошнюю просьбу адданай уніяткі.

Пахаваньне Ганны Ліпскай запомнілася шчырай сумеснай, можна сказаць, па-сапраўднаму экуменічнай малітвай грэка-каталіцкага сьвятара а. Ігара і альпенскіх жанчынаў, што сьпяваюць у хоры альпенскай праваслаўнай царквы. Айцец Ігар служыў паніхіду па-беларуску, а альпенскія жанчынкі адказвалі яму па-царкоўнаславянску. Незабыўнае ўражаньне еднасьці і ўзаемаразуменьня!

Пахавальная працэсія з крыжам і царкоўнымі харугвамі, пад дружны сьпеў «Сьвяты Божа» прайшла праз усю вёску, прыпыніўшыся на хвіліну ля старажытнай альпенскай царквы. Высьветлілася, што ў Альпені ёсьць двое могілак. Адныя дагэтуль называюць грэка-каталіцкімі, бо там пахаваныя пераважна былыя ўніяты. На іх, побач са сваімі роднымі, знайшла супакой і Ганна Ліпская. Памерла яна ў сьветлы Пасхальны перыяд, калі нават падчас пахаваньня сьпяваецца радаснае і жыцьцясьцьвярджальнае: «Хрыстос уваскрос з мёртвых, сьмерцю сьмерць зваяваў, і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў!» Сёлета каталікі і праваслаўныя ў адзін дзень сьвяткавалі Пасху Хрыстову. І, напэўна, ёсьць ва ўсім гэтым яднаньні нейкі Божы знак.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

*У газеце «Царква» (№3 (38), 2003) мы пачалі друкаваць найбольш цікавыя ўрыўкі з кнігі бенядзіктынскага дыякана Васіля (фон Бурмана) «Леонид Фёдоров. Жизнь и деятельность» (Рым, 1966). Кніга, выдадзеная некалькі дзясяткаў гадоў таму ў Рыме, засталася амаль невядомая і маладаступная ў Беларусі. А ў ёй ёсьць шмат цікавых фактаў пра беларускага каталіцкага сьвятара-мучаніка а. Язэпа Белагаловага, пра яго дзейнасьць у Магілёве па адраджэньні ўсходняга каталіцтва, пра кантакты з а. Леанідам Фёдаравым, які з 18 студзеня 1923 году часова выконваў абавязкі экзарха для ўсходніх католікаў ва Ўсходняй Беларусі і якога Каталіцкая Царква нядаўна вызнала блаславёным.*

*У мінулым нумары мы пазнаёмілі чытачоў з лістом Магілёўскага дэкана айца Язэпа Белагаловага Папу Пію XI, у якім ён выявіў выдатнае разуменьне ўсходняга каталіцтва і шчырае жаданьне дапамагчы справе адраджэньня Уніі. Гэтым разам зьмяшчаем у перакладзе на беларускую мову ўрывак (с.489-493) пра першую паездку грэка-каталіцкага экзарха а. Леаніда Фёдарава ў Беларусь, якая адбылася ў чэрвені 1922 году і сталася сапраўдным сьвятам еднасьці. Таксама немалую цікавасьць выклікае ліст расейскага Экзарха мітрапаліту Андрэю Шаптыцкаму, напісаны ім пасьля паездкі ў Магілёў, дзе ён выкладае сваё бачаньне персьпектыў разьвіцьця каталіцтва ў Беларусі.*

***Дыякан Васіль (фон Бурман)***

# «Тут цярпеньне і вера сьвятых»

У хуткім часе пасьля маскоўскай сустрэчы а. Язэп Белагаловы даў тэлеграму а. Леаніду ў Петраград з просьбай абавязкова прыехаць у Магілёў да 11 чэрвеня н. ст. І хоць чыгуначны квіток каштаваў тады 15 мільёнаў рублёў, а. Леанід неадкладна сабраўся ў дарогу і 11-га ранкам быў ужо на месцы. Там ён даведаўся, што 13 чэрвеня ў Магілёве ладзіцца грандыёзная ўрачыстасьць у гонар сьв. Антонія Падуанскага, цудатворны абраз якога знаходзіцца ў мясцовай каталіцкай катэдры. А. Леаніда сустрэлі ў Магілёве вельмі ўрачыста, як «уніяцкага ўладыку». Ён адслужыў дзьве Літургіі ў самым Магілёве і адну ў мястэчку Сафійск, за 25 км ад Магілёва. Падчас знаходжаньня там а. Леаніду давялося шмат гутарыць з прадстаўнікамі інтэлігенцыі, і ён сказаў перад імі чатыры пропаведзі.

У сувязі з тым, што да 13-га чэрвеня ў Магілёў прыходзяць з навакольных вёсак хрэсныя хады, неўзабаве ў горадзе сабраўся натоўп каля дваццаці тысячаў чалавек з харугвамі і іконамі ды з пяцьцю сьвятарамі. А. Язэп зрабіў, здаецца, усё для таго, каб знаходжаньне а.Экзарха ў Магілёве выглядала як можна больш урачыста. Усюды падкрэсьлівалася поўная роўнасьць усходняга абраду з лацінскім. Як самы старшы па сану ды пралат Рымскай Царквы, Экзарх быў цэнтральнай постацьцю ўсіх урачыстасьцяў. Падчас лацінскіх багаслужбаў ён сядзеў на асаблівым узвышэньні, блаславіў фіміям, і лацінскія сьвятары схілялі перад ім калені, просячы благаслаўленьня, калі трэба было выйсьці на казаньне. Зьдзіўленьне народу, які пабачыў «праваслаўнага папа», якому аддавалі столькі пашаны, было немалое. Аднак, калі ўсё высьветлілася, зьдзіўленьне зьмянілася вялікай радасьцю: «Вярнулася унія!».

Гэтая радасная вестка перадавалася з вуснаў у вусны і прыйшлася даспадобы як праваслаўным, так і католікам. Праваслаўнае духавенства таксама ацаніла належным чынам гэтую падзею і выступіла з рознымі «чуткамі» пра а. Леаніда: «Ён контррэвалюцыянер! (Гэта было тады самым дзейсным сродкам, каб націкаваць на непажаданую асобу «дзяржаўную ўладу».) Ён польскі езуіт, прысланы сюды для таго, каб звабіць праваслаўных праз унію!»

Усё тут было, як выказаўся а. Леанід, «чын чынам». Аднак нішто не магло яму перашкодзіць. Калі ён служыў другую літургію 18 чэрвеня (у тым годзе на гэты дзень было перанесена адзначэньне сьвята Божага Цела), то ў царкве, якая была запоўнена поўнасьцю, былі амаль адныя праваслаўныя. Гэта, вядома, ня стала таямніцаю для праваслаўнага япіскапа Варлаама (*вікары Магілёўскага япіскапа Канстанціна, якога бальшавікі кінулі ў турму разам з некалькімі сьвятарамі — Аўт.*), у якога ў той самы дзень была ў храме толькі невялікая група бабуль і дзяцей. У раўнівым дбаньні аб праваслаўі япіскап Варлаам аддаў анафеме ўсіх, хто пабываў на «уніяцкіх багаслужбах». Аднак мэты ён гэтым шляхам не дасягнуў. Яшчэ на першай літургіі а. Леаніда, 13 чэрвеня, прысутнічалі два праваслаўныя протаярэі і адзін дыякан. На абедзьвюх ягоных літургіях прыслугоўваў праваслаўны псаломшчык у стыхары, які пазычылі дзеля гэтае нагоды таксама з праваслаўнай царквы. Адтуль жа былі і сьпевакі. Хорам кіраваў славуты ў Магілёве праваслаўны рэгент Грайко. У Сафійску, на набажэнстве а. Леаніда, сьпявалі нават два праваслаўныя хары, прысутнічаў адзін праваслаўны сьвятар, а гадзіны і Апостала чытаў... праваслаўны дыякан. Па дарозе ў Магілёў некаторыя каталіцкія працэсіі праходзілі праз праваслаўныя вёскі. Праваслаўны люд выходзіў католікам насустрач з харугвамі і крыжамі; насельніцтва рассьцілала па дарозе палотны, выносіла для благаслаўленьня хлябы.

13 чэрвеня на Магілёўскіх могілках была ўрачыстая служба, на якую ўсе рушылі хрэсным ходам пасьля літургіі а. Леаніда ў катэдры. Айцец Леанід прысутнічаў на багаслужбе ў поўным убраньні і мітры, пры чым яму было зроблена месца для сядзеньня «ледзь не вышэй за прастол». Побач з католікамі, тысячы праваслаўных запаланілі могілкі. Айцец Аляксандар Сак, пробашч у Фашчаўцы, сказаў пабеларуску казаньне на тэму аб Зьяднаньні Цэркваў. Ён «гаварыў проста, захаплялльна, кранальна, але,— паводле словаў а. Леаніда,— магчыма, занадта ўжо агітацыйна...».

Цікавасьць да царкоўнай еднасьці дайшла да таго, што 18 чэрвеня, пасьля літургіі, якую служыў а. Леанід, да яго зьявілася дэпутацыя ад мясцовай праваслаўнай інтэлігенцыі, каб падзякаваць за службы і казаньні ды папрасіць «ашчасьлівіць яшчэ раз сваім прыездам і не забываць, што ўсе прагнуць найхутчэйшага аднаўленьня уніі».

«Адным словам,— заўважыў з гэтай нагоды сам а. Леанід,— каласальнае ўражаньне, аграмадны зрух: многія гавораць, што яны ўжо цяпер сталі зноўку ўніятамі, таму як унія вярнулася!.. Калі б хоць парачку нашых адукаваных сьвятароў, як пайшла бы сьвятая справа!»

З лацінскіх сьвятароў далі сваю згоду на пераход ва ўсходні абрад а. Аляксандар Сак, а. Антон Ярмаловіч (выдатны малады сьвятар, вікары а. Белагаловага) і яшчэ а. Канцэвіч, ліцьвін (*у расейскім тэксьце — літовец; заўв. Рэд.*), чалавек «з зусім рускай душой». А. Леанід давёў ім, што ўсе яны павінны згуртавацца каля а. Белагаловага, падтрымліваць яго і вышукваць новых рупліўцаў узьяднаньня праваслаўя з каталіцтвам. А. Леанід вырашыў абавязкова зьезьдзіць яшчэ раз у Магілёў, спадзеючыся, што а. Белагаловы зьбярэ да таго часу вакол сябе рупліўцаў царкоўнай еднасьці з асяродку лацінскага духавенства. Тады, думаў ён, магчыма будзе ўсім разам зладзіць нараду і вырашыць, што рабіць далей.

Таксама недзе ў той самы час нехта Ўладзімір Андрэевіч Галынскі, сапраўдны беларус, чалавек вельмі набожны і добры, выказаў жаданьне а. Леаніду стаць сьвятаром усходняга абраду. Прапаноўваў сябе а. Леаніду таксама ў якасьці ўсходняга сьвятара, яшчэ адзін рускі, лацінянін, пробашч касьцёлу, які добра ведаў псіхалогію рускага народу і разумеў асаблівы характар прапаведваньня ўсходняга каталіцтва. Тым ня менш, а. Леанід паставіўся да гэтага сьвятара з асьцярогаю. Ён лічыў, што з яго атрымаецца карысны працаўнік у справе зьяднаньня Цэркваў толькі пры ўмове, калі ён трапіць у добрыя рукі.

Свае высновы пасьля размовы з беларусамі а. Леанід выклаў у лісьце да мітрапаліта Андрэя [*Шаптыцкага — Рэд.*], у якім ёсьць справаздача пра магілёўскія дні, знамянальныя і для самога а. Леаніда:

«Цяпер Вашай Эмінэнцыі належыць зьдзейсьніць немалы подзьвіг. Патрэбна чаго б гэта не каштавала прызначыць для беларусаў у Расеі, што знаходзяцца ў губернях Магілёўскай, Менскай, Віцебскай і Смаленскай ды ў іншых месцах, якога-небудзь асаблівага лацінскага прадстаўніка, аднак ані ў якім разе не з тытулам Апостальскага вікарыя, што страшна зьняважыла б праваслаўных, якія мяркуюць, што Апостальскія вікарыі прызначаюцца толькі для язычніцкіх краінаў. Патрэбна паказаць Сьвятому Пасаду крайнюю неабходнасьць распалячыць каталіцкую Царкву ў Расеі. Калі раней, пры царскім рэжыме, падобнага роду распалячваньне магло быць выкарыстана царскім

Працяг на с.16 ⇨

## «Тут цярпеньне і вера сьвятых»

⇨ Заканчэньне са с.15

урадам у мэтах распаўсюджваньня схізмы, дык цяпер гэтай небясьпекі не існуе. Вядома, палякі, каб не пазбавіцца сваёй перавагі, працягваюць даказваць, што каталіцтва трымаецца ў Расеі толькі дзякуючы ім, але цяпер гэта толькі сьмешна. Наадварот, спробы задушыць беларускі рух, які ўсё больш нарастае, могуць прывесьці да вельмі сумных вынікаў... Сам найдастойны Ян Цепляк усьведамляе, што кіраваньне аграмаднай архіяпархіяй, якая сваімі памерамі большая за ўсю Заходнюю Еўропу, не па сілах для аднаго чалавека, і пісаў у Рым аб падзеле яе на асобныя біскупствы. Для беларускіх каталікаў павінен быць свой асаблівы біскуп. Але гэта мусіць быць ня толькі беларус па паходжаньні, але й па перакананьні і па сваіх культурных памкненьнях, а таксама й па сваім безумоўна прыязным стаўленьні да сьв. Уніі, які перш за ўсё дбаў бы пра ўсходніх, а потым ужо пра лацінянаў, бо посьпех нашае місіі цалкам залежыць ад стаўленьня да нас лацінскага кліру. Адзіным такім чалавекам зьяўляецца пакуль што а. Белагаловы, і, калі ён не дарос да біскупства, дык неабходна, што б там ні было, даць яму пасаду адміністратара беларускіх япархіяў. Я думаў спачатку схіліць яго, каб ён пагадзіўся быць Вашым усходнім прадстаўніком у Беларусі, але ён справядліва ўказаў мне на тое, што лацінскае прадстаўніцтва найважнейшае. «Калі я буду прызначаны ўсходнім прадстаўніком мітрапаліта Андрэя,— сказаў ён,— то палякі адразу жа прызначаць іншага прадстаўніка, які будзе мне ўсё псаваць ды падбухторваць супраць мяне насельніцтва».

Вось чаму ўсходняе прадстаўніцтва патрэбна даць, як мне здаецца, яму ж, але толькі тады, калі ён будзе зусім незалежным адміністратарам Беларусі, тым больш, што духавенства, якое я бачыў на ўрачыстасьцях у гонар сьв. Антонія, прасіла мяне хадайнічаць, каб найдастойны Ян Цепляк даў а. Белагаловаму вялікія дэлегацкія паўнамоцтвы. Біскуп ужо пагадзіўся з маімі просьбамі і абяцаў напісаць мітрапаліту Ропу, але, з увагі на ягоную крайнюю нерашучасьць і слабасьць волі, трэба дзейнічаць без яго і падаць справу ў Рыме ва ўсёй ейнай важнасьці, дабіваючыся поўнай незалежнасьці беларускіх япархіяў ад Магілёўскай архіяпархіі. Катэдра Магілёўскага архібіскупа павінна быць перанесена ў Петраград, дзе яна заўсёды фактычна знаходзілася, і мусіць быць цалкам зьнішчаны бязглузды тытул «Магілёўскай архіяпархіі. Я пастараюся, вядома, каб беларускае духавенства само прыняло ў гэтым удзел і клапацілася ў Рыме; трэба было б зладзіць і хадайніцтва, па магчымасьці, усёй беларускай інтэлігенцыі, пра што я буду старацца ў наступны прыезд у Магілёў...»

Як бачым, перажытае за гэтыя дні ў Магілёве навеяла а. Леаніду шэраг думак пра далейшае разьвіцьцё ягонай місіі і пра тое, што і як, крок за крокам, для яе трэба было рабіць. Вынікам магілёўскай паездкі стала і малітва пра зьяднаньне Цэркваў, напісаная а.Леанідам. Такая малітва, на ягоную думку, мусіць быць кароткай, зразумелай і ўсім даступнай, прымальнай як для каталікаў, так і для праваслаўных. Як пазалітургічная, яна мусіць быць напісана высокім расейскім стылем, бо царкоўна-славянская мова сталася зразумелай толькі нешматлікім. Зыходзячы з гэтага, а. Леанід прапанаваў мітрапаліту Андрэю прыняць наступны тэкст, які ў нашыя дні стаў шырока вядомы як Малітва а. Леаніда Фёдарава пра зьяднаньне Цэркваў.

## Малітва а. Леаніда ФЁДАРАВА *пра зьяднаньне Цэркваў*

*Зірні, міласэрны Госпадзе Ісусе, Збаўца наш, на малітвы і ўздыханьні грэшных і недастойных слугаў Тваіх, якія пакорліва да Цябе прыпадаюць, і зьяднай нас усіх у адзінай, сьвятой, паўсюднай і апостальскай Царкве. Сьвятло Тваё незаходнае пралі ў душы нашыя. Зьнішчы разлады царкоўныя, дай нам славіць Цябе адзіным сэрцам і адзінымі вуснамі, і няхай зьведаюць усе, што мы — верныя вучні Твае і ўлюбёныя дзеці Твае. Уладару наш многаміласьцівы, неадкладна выканай абяцаньне Тваё, і няхай будзе адзін статак Твой і адзін Пастыр у Царкве Тваёй, каб нам годна славіць імя Тваё сьвятое цяпер, і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.*

* * *

Апавядаючы пра гэтыя царкоўныя ўрачыстасьці і той рух да еднасьці, які яны спараджалі ў асяроддзі вернікаў, нельга ніяк выпускаць з-пад увагі агульны, па-сапраўднаму жудасны, змрочна-дэманічны фон, на якім апісаныя сьветлыя падзеі разгортваліся. У тым жа Магілёве а. Леанід быў сьведкам, як на вуліцы спальваліся рэлігійныя кнігі. Гэта быў толькі невялікі «фрагмент» павальнага зьнішчэньня багаслоўскіх бібліятэк.

Ня толькі ўвесь урадавы апарат у Расеі быў ужо трывала ў руках пасобнікаў сатаны, але былі таксама выпадкі адкрытага перасьледу малельнікаў.

*(Працяг у наступным нумары)*

*Пераклад на беларускую мову І.Бараноўскага*




**ПОДЗЯВА Фома. ДЕМЬЯН ИЛИ КАК ЛЮДИ СТАЛИ ВЕРИТЬ В БОГА.**— *Полоцк: Греко-католическая религиозная община г.Полоцка, 2003.— 112 с. Наклад 200 асобнікаў.*

Філасофска-сатырычная паэма выдатнага беларускага сьвятара-марыяніна Тамаша Падзявы, напісаная ім на маленькіх кавалках паперы ў лагерных умовах, у перапынках паміж цяжкай працай, зьяўляецца вершаваным пераказам вядомага антыбязбожніцкага твору Ф.Мельнікава «Откуда произошла вера в Бога?» Гэта першая кніга з серыі «Мартырыя». Цікавы помнік эпохі і сьвятарскай мужнасьці.




**ДАНІЛАЎ Віктар. МОЙ ШЛЯХ ДА БОГА І ДА КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ.**— Полацак: *Грэка-каталіцкая рэлігійная грамада г.Полацка, 2004.— 100 с. Наклад 200 асобнікаў.*

Кніга-сьведчаньне беларускага грэка-каталіцкага сьвятара Віктара Данілава, які больш за 7 гадоў правёў у сталінскіх лагерах,— другая ў серыі «Мартырыя». Аўтар распавядае пра ўласныя пошукі праўды і сэнсу чалавечага жыцьця. У 1997 г. кніга выйшла па-расейску і хутка разышлася. Беларускае выданьне дапоўнена двума новымі разьдзеламі пра місіянерскую дзейнасьць на волі і сьвятарскае служэньне ў падпольлі. Асаблівую цікавасьць уяўляе расповяд пра кантакты з айцом А. Менем і а. Дз. Дудко.

Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 2 (41), 2004

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by

**Выдавец:** Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** Алесь Трафіменка, STM
**Адказны рэдактар:** Андрэй Крот, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 24 чэрвеня 2004 году. а 23-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (№ 02330/0148724 ад 30.04.04.), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1760 асобнікаў.

Наш разьліковы рахунак
№ 3015200210017
у Берасьцейскім філіяле № 2
ЗАТ "Абсалютбанк",
МФО 150501242

# РАЗАМ

газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 2(14)-2004

> “Калі станеце дзецьмі — у вас ня будзе гора. Дзеці адразу забываюць дрэннае і вяртаюцца да гульні.— Вось жа й вы пазбаўляйцеся ад клопатаў, даверыўшыся Богу ды маючы супакой Божы”.
>
> *Блаславёны Хасэмарыя Эскрыва. «Шлях», 864.*

# Бацькі і дзеці:

## *канфлікт ці паразуменьне?*




Праблематыка старая хіба, як пытаньне «быць ці ня быць». У сучасным сьвеце хуткасьці і глабалізацыі нагадвае яна байку ці міт, у якіх ня раз «устами младенца глаголет истина». Сапраўды, мы зьяўляемся сьведкамі парадаксальных сітуацыяў: напрыклад, старэйшы сын вучыць карыстацца «мабілай» свайго бацьку, сярэдні сын «пасьвячае» старэйшага ў падрабязнасьці функцыянаваньня кампутарнай праграмы, а малодшы кампетэнтна інфармуе ўсю сям'ю пра актуальныя кошты тавараў на кніжным рынку, пры гэтым мае мару ў бліжэйшым будучым акрыць уласную краму ў Інтэрнэце. Ужо не старэйшы вучыць малодшага — узрост у пэўнай меры перастаў іграць ролю. Хуткая зьмена датычыць ня толькі кампутарнай тэхнікі, але таксама чалавечай ментальнасьці ды сьветапогляду. І перад абліччам гэтай новай рэчаіснасьці – новых магчымасьцяў і каштоўнасьцяў – паўстае пытаньне пра новае, адэкватнае сучаснай сітуацыі, выхаваньне.

Часта прыходзіцца сутыкацца з пераканаеньнем некаторых бацькоў, што выхаваньне дзяцей — гэта справа школы альбо, у лепшым выпадку, нядзельнай школы пры царкве. Неразуменьне таго, што менавіта сям'я закладае фундамент разьвіцьця чалавека, сьведчыць пра глыбокую бацькоўскую несьвядомасьць. Вось што кажа сьвяты Ян Залатавусны на гэтую тэму ў адным з сваіх казаньняў: «У горшым, чым жывёлы, стане знаходзяцца дзеці, бо аб аслах і конях больш мы турбуемся, чым пра сваіх сыноў. Калі хто мае мула, то больш прыкладвае стараньняў, каб знайсьці найлепшага паганяча [...]; калі ж ёсьць патрэба знайсьці выхаваўцеля для дзіцяці, бярэм першага лепшага, ды й то пры аказіі. Але ж няма нічога больш важнага, чым майстэрства выхаваньня» *(Казаньне на Евангельле Сьвятога Мацьвея).*

Бацькі мусяць быць першымі педагогамі і аўтарытэтамі для сваіх дзяцей, гэта іх права і абавязак перад Богам. Але як выхоўваць? Чаму зьяўляюцца непаразуменьні з дзецьмі? Дзе ляжаць карані іх непаслухмянасьці? Як бацькам рэагаваць на шматлікія, можа, незразумелыя, праявы іх жыцьця? Нам таксама хочацца знайсьці адказ на гэтыя і іншыя пытаньні, таму і абралі гэтую тэму для нашага нумару. Адназначныя адказы знайсьці цяжка і, напэўна, немагчыма, але, можа, паспрабуем усё ж такі пашукаць РАЗАМ?

**РЭДАКЦЫЯ**

***Сучасная хрысьціянская педагогіка падкрэсьлівае, што дзіця трэба выхоўваць да разуменьня і прыняцьця пяці асноўных філасофска-маральных крытэрыяў, якія зьяўляюцца асновай праўдзівых жыцьцёвых рашэньняў і выбараў, а таксама хрысьціянскага сьветапогляду. Гэтыя крытэрыі — праўда, свабода і адказнасьць, справядлівасьць і любоў, г.зн. тое, што можам знайсьці ў ідэале толькі ў Богу.***

***Так, крыніцай праўдзівай педагагічнай паставы зьяўляецца Бог. Гэта значыць, што чым больш сям'я заглыблена ў Богу, тым лепей выхаваных дзяцей яна будзе мець, бо Бог ёсьць пачаткам праўдзівай педагогікі і праўдзівай культуры.***

# ДЗЕСЯЦЬ прыказаньняў для бацькоў

❶ *Не чакай, што тваё дзіця будзе такое, як ты, або такім, як ты хочаш. Дапамажы яму вырасьці не табою, але самім сабою.*

❷ *Не патрабуй ад дзіцяці заплаты за ўсё, што ты для яго зрабіў. Ты даў яму жыцьцё, як ён можа аддзячыць табе? Ён дасьць жыцьцё другому, той — трэцяму, і гэта незваротны закон удзячнасьці.*

❸ *Не спаганяй на дзіцяці свае крыўды, каб у старасьці ня есьці горкага хлеба. Бо што пасееш, тое і пажнеш.*

❹ *Ня стаўся да яго праблемаў звысоку. Жыцьцё дадзена кожнаму па сілах і, будзь упэўнены, што яно для яго ня менш цяжкае, чым для цябе, а магчыма, што й больш, паколькі ён ня мае досьведу.*

❺ *Не зьневажай!*

❻ *Не забывай, што самыя галоўныя сустрэчы чалавека — гэта яго сустрэчы з дзецьмі. Зьвяртай больш увагі на іх — мы ніколі ня можам ведаць, каго сустракаем у дзіцяці.*

❼ *Ня мучай сябе, калі ня можаш зрабіць чаго-небудзь для свайго дзіцяці. Мучай — калі можаш, але ня робіш. Памятай, для дзіцяці зроблена недастаткова, калі ня зроблена ўсё.*

❽ *Дзіця — гэта не тыран, які апаноўвае ўсё тваё жыцьцё, ня толькі плод цела й крыві. Гэта той каштоўны келіх, які Жыцьцё дало табе на захоўваньне і для разьвіцьця ў ім творчага агню. Гэта вызваленая любоў маці і бацькі, у якіх будзе расьці не «нашае», «сваё» дзіця, але душа, дадзеная на захоўваньне.*

❾ *Умей любіць чужое дзіця. Ніколі не рабі чужому тое, чаго не хацеў бы, каб зрабілі твайму.*

❿ *Любі сваё дзіця ўсякім — нetaленавітым, няўдачлівым, дарослым. Кантактуючы з ім — радуйся, бо дзіця — гэта сьвята, якое пакуль з табой.*

**Януш КОРЧАК**

# Гары Потэр:

## забараніць нельга зьмілавацца

Дзе б вы паставілі коску, нашыя паважаныя чытачы? Ці пасьля першага слова, выказваючы цьвёрдае перакананьне, што проста неабходна «Забараніць!», ці, можа, пасьля другога, разумеючы, што забараніць цяжка, ды й ці патрэбна? «Як гэта так — могуць сказаць з абурэньнем першыя — вы яшчэ вагаецеся, яшчэ не разумееце? Ну чаму можа навучыць гэты Гары нашых дзяцей? Ці дапаможа ў выхаваньні? Ці ўмацуе ў асновах веры? Ці навучыць быць паслухмяным «пайхлопчыкам»? Вы толькі паглядзіце, якія растуць дзеці — проста жах! І гэта ўсё ён вінаваты, гэты Гары, і яму падобныя!» У адказ хочацца спытаць, а ці сапраўды так? Ці сапраўды вінаваты Гары, які «ў нішто ператварае ўсе выхаваўчыя высілкі» бацькоў? Ці можа справа ў іншым? Нават больш, ці сапраўды гэтая кніга ня можа вучыць і выхоўваць? Гэта можа гучаць больш чым дзіўна (для некаторых нават гэрэтычна, не па-хрысьціянску), але давайце паразважаем спакойна і прыглездзімся да Гары й да сябе ў асьпекце выхаваньня, а асабліва выхаваньня хрысьціянскага.

Магія! Гэтае абвінавачваньне твора пра Гары Потэра найчасьцей паўтараюць хрысьціяне. Галасы даносяцца нават з некаторых праваслаўных манастыроў, праз іх агітацыйныя лісткі, што распаўсюджваюцца ўсюды. Толькі, чытаючы іх адчуваеш, што аўтар увогуле не чытаў кніжку пра Гары, а «чуў ад пэўнага чалавека, якому расказвала ягоная жонка, што чула ад суседкі, якая ведае дакладна, бо сябра яе сына нядаўна прачытаў «гэтую ЖАХЛІВУЮ кнігу...» Ці сапраўды ў такім выпадку ведае праўду той, хто піша? Ёсьць і іншыя галасы, што сур'ёзна кажуць і пішуць пра знойдзеныя ў кнізе «падрабязныя апісаньні крывавага рытуалу ахвяраваньня жывёлаў», пра рэальныя магічныя закляцьці, пра дзяцей, што атруціліся напоямі, прыгатаванымі згодна з рэцэптамі той кнігі, альбо якія паламалі сабе нешта, спрабуючы паляцець са стала на мятле.

Абвінавачваньні сур'ёзныя нават для няверуючых, а ня толькі для хрысьціянаў. Паспрабуем адказаць. Магіі, у сэнсе кантакту са злымі пазанатуральнымі сіламі ці асобамі (бесамі) з шуканьнем нейкай помачы ад іх, у кнізе няма. Магія ж, якой вучацца ў Хогвардзе (школа, у якой вучыцца Гары), таго самага ўзроўню, як і ў нашых старых казках, г. зн. спроба нейкага механічнага ўплыву на падзеі, кшталту — прачытай тэкст альбо вазьмі амулет і ўсё будзе ў парадку. Заўважце, гэта тая самая магія, якая існуе ў наш час у сьвядомасьці большасьці людзей, веруючых і няверуючых: прыкметы, гараскопы, падковы і іншыя амулеты ў хаце (існуе нават «хрысьціянская магія», што цесна зьвязана з народнымі забабонамі) і г.д. Зразумела, што такая практыка з хрысьціянствам мае мала супольнага і супярэчыць ёй, чаму ж пра гэта мы крычым менш, чым пра Гары? Але самае цікавае тое, што аўтарка (Джаанна Роўлінг) сама ня верыць у такую магію і ў сваёй кнізе пасьмейваецца над ёй (дастаткова ўзгадаць назвы магічных падручнікаў, альбо сьмешныя апісаньні дзеяньняў розных закляцьцяў, альбо, напрыклад, тое, што падручнік па магічных патворах сам можа пакусаць). Лёгка заўважаюць гэта ўсе, хто мае пачуцьцё гумару і ня мае прадузятасьці, прычым такія галасы ідуць і ад рыма-каталіцкіх багасловаў, і ад грэка-каталіцкіх, і ад праваслаўных, што рэальна глядзяць на розныя праявы жыцьця моладзі.

Ня трэба баяцца і таго, што дзеці прымуць гэта ўсё за праўду, бо нармальныя дзеці, адкрываючы Гары (як і іншыя казачныя ці фантастычныя кнігі), пераносяцца ў іншы, нерэальны сьвет, сьвядома прымаюць ягоныя законы (яўна бачныя як казачныя), не зьдзіўляюцца, што яны дзейнічаюць у тым сьвеце, і ніколі не пераносяць іх у рэальнае жыцьцё (толькі, можа, у гульнях на тэму кнігі). Гэта хутчэй мы, дарослыя, верым. Верым, што можна зрабіць напоі па тых рэцэптах (я не ўяўляю сабе як, бо ўсе складнікі там сьмешна-фантастычныя і не існуюць рэальна), што дзеці могуць калечыцца, гуляючы (толькі) у Гары Потэра (а калі раней гулялі ў Робін Гуда, ці не калечыліся больш?), што закляцьці з кнігі маюць нейкую моц (а яны насамрэч звычайныя лацінскія словы; для нас гэта тое самае, як замест уключэньня сьвятла скажам: «Сьвятло!», і яно запаліцца), што там апісваюцца «сакральныя забойствы» (чаго там увогуле няма). Насамрэч гэтыя абвінавачваньні проста сьмешныя і недакладныя, тым больш для гэтага жанру, для казкі, у якім існуюць свае правілы, свае вобразы і законы жанру.

Так, для падзеяў выбраны менавіта такі фон — сьвет магіі, але ці гэта праблема? Ці мала зараз такіх кніг, дзе ўсе падзеі адбываюцца ў сьвеце магіі (узяць хоць бы пашыраны зараз жанр фэнтэзі)? Ці, можа, мала такіх фільмаў? А замяні фон на іншы — і фактычна зьнікне розьніца між Гары і, напрыклад, кнігамі пра прыгоды Тома Соера ці апавяданьнямі Ю.Якаўлева, У. Крапівіна пра нашых школьнікаў савецкіх часоў. Пытаньне ў іншым — чаму ўсе яны вучаць? Які прыклад даюць?

Што можа даць дзецям Гары? Папершае, як сказаў адзін каталіцкі багаслоў, можа навучыць адрозьніваць дабро ад зла, і, нават у звычайным жыцьці, заўважыць гэтую адвечную барацьбу. Дабро ў кнізе — гэта заўсёды дабро, зло — заўсёды зло. Прычым зло паказана згодна хрысьціянскім уяўленьням — яно асабовае. Увасабленьне зла — Лорд Вальдэморт — аналагічны шатану, бо зло выбраў сьвядома і вольна, праз пыху і зайздрасьць, і не прымае дабра ў любой іншай форме, як прыгажосьць, любоў, міласэрнасьць. Ён — асабісты вораг дабра (нават Дабра абсалютнага, якое для нас атаясамляецца з Богам), і тыя, хто пачынае яму служыць, робяцца такімі самымі, як і ён. У чытальніка ня зьявіцца нават думка насьледаваць яго альбо ягоных паплечнікаў (вядома, калі толькі ён — чытальнік — ужо ў жыцьці не пайшоў тым самым шляхам), бо адмоўныя героі паказаныя вельмі непрыемна, паказаныя менавіта як злыя, як тыя, каго ня можна насьледаваць. І ня трэба баяцца таго, што яны ў кнізе робяць сапраўды вельмі нягодныя і страшныя ўчынкі, бо яны павінны (!) паказваць, сымбалізаваць зло. Персанаж ня будзе адмоўным, калі самым вялікім ягоным грахом будзе тое, што ён ня чысьціць зубы два разы ў дзень (як выйшла з Томам Соерам, якому дзеці падобнае ставяць у заслугу).

Добрыя ж персанажы не ідэалізаваныя і паказаныя як звычайныя людзі, што таксама могуць памыляцца, рабіць у жыцьці нешта благое, каяцца, прызнаваць памылкі, прасіць прабачэньня. Яны штодзённа стаяць перад выбарам паміж дабром і злом, вучацца выбіраць, вучацца адказваць за свой выбар і свае ўчынкі (за тымі добрымі ўчынкамі, за праявамі любові ў кнізе лёгка пабачыць і Бога, Які ёсьць Дабро, Любоў, Міласэрнасьць, толькі трэба было б, каб бацькі дапамаглі дзецям гэта заўважыць і асэнсаваць). У вусны добрых герояў укладаюцца станоўчыя думкі: што мэта не апраўдвае сродкаў, асуджэньне падзелу на высокія і нягодныя расы (а не прапагандаваньне расізму, як пішуць некаторыя) і іншыя погляды, супрацьлеглыя поглядам злых. Добрых герояў дзеці нават ня столькі насьледуюць (бо няма сэнсу — яны ж звычайныя, ня нейкія «супермэны»), колькі знаходзяць саміх сябе ў іх, бачаць у іх свае рысы, сваё адлюстраваньне. Таму перажываюць разам з імі нейкія памылкі, ці адважваюцца разам з імі, насуперак сваім страхам і слабасьцям, на мужныя і шляхетныя ўчынкі. Таксама пазнаюць у персанажах іншых людзей са свайго атачэньня: сяброў, настаўнікаў, кіраўнікоў, тым больш, што персанажы вымаляваныя ў кнізе вельмі яскрава і праўдзіва. На ўсім гэтым яны вучацца, здабываюць жыцьцёвы вопыт, прычым далёка не найгоршы ў параўнаньні з тым, што часам даем ім мы, бацькі і дарослыя.

Прабачце, сябры, але ці гэтага ворага не стварылі мы самі, ды й толькі для таго, каб было на каго перакласьці адказнасьць за нявыхаванасьць і сапсаванасьць нашых дзяцей? Мы ходзім на працу, зарабляем для іх грошы, кормім іх, апранаем, мыем, купляем ім цацкі (нават такія дарагія, як камп'ютар) і тым задавальняем свае «выхаваўчыя» патрэбы; знаходзім апраўданьне ў недахопе часу, каб толькі не займацца сапраўдным выхаваньнем. Пазьней абвінавачваем школу, сяброў, гурткі, кнігі. Але ж усе іх добрыя высілкі ператвараюцца ў нішто, калі ў гэты працэс не ангажуюцца самі бацькі, калі яны ня будуць спрабаваць выхоўваць самі, калі яны ня будуць размаўляць з дзецьмі, ахвяраваць ім свой час, выказваць ім сваю любоў. Насамрэч, мне здаецца, што бацькі проста баяцца, баяцца памыліцца, баяцца, што гэта зойме шмат часу, баяцца, бо ня ўмеюць выхоўваць, і, на жаль, нават ня хочуць навучыцца. Спрабуюць знайсьці нейкія іншыя, заменныя спосабы. У некаторых праваслаўных і каталіцкіх сем'ях спрабуюць абмежаваць чытаньне сваіх дзяцей Жыцьцямі сьвятых ці пабожнымі апавяданьнямі пазамінулага

(Працяг на с. 4)

а. Анры КАФАРЭЛЬ

# Чорная Мімуна

***Значыць, вашыя «маладыя дзікуны» ўвесь час займаюцца тым, што сварацца! І вы, іхняя маці, з-за гэтага пакутуеце. І кажаце мне, што чым далей, тым сітуацыя яшчэ больш пагаршаецца. (Я, зрэшты, лічу вашых чатырох хлопцаў вельмі сімпатычнымі дзецьмі!).***

***Ці справа тут у метадзе выхаваньня? [...]***

Ці дазволіце мне выказаць думку, што прычыны гэтага, ці прынамсі адна з іх, знаходзіцца ў вас самой? Апавяданьне, пазычанае з чароўнай легенды пра мусульманскіх сьвятых, дапаможа вам зразумець маю думку лепей, чым доўгія разважаньні.

«Абдальвахыд ібн-Сэід пажадаў даведацца, хто будзе яго суседам у раі, і яму было сказана: «О, Абдальвахыд! Тваёй суседкай будзе Чорная Мімуна». — «І дзе ж яна, гэтая Чорная Мімуна?» — працягваў ён задаваць свае пытаньні хутчэй з настойлівасьцю, чым са сьціпласьцю. — «У Бану Ун-Тэль, у Куфе». Тады вырушыў ён у Куфу і запытаў там пра Чорную Мімуну. Яму адказалі, што гэта пэўная прыдуркаватая дзяўчына, якая пасьвіць авечкі паблізу могілак. Ён знайшоў яе заглыбленай у малітве. Статак пасьвіўся зусім самастойна, і гэта было тым больш дзівосна, што авечкі пасьвіліся пасярод ваўкоў, і ваўкі не чапалі авечак, а авечкі не баяліся ваўкоў... «Як жа гэта так сталася, — запытаў тады ібн-Сэід, — што ваўкі так добра абыходзяцца з авечкамі?» — «Я палепшыла мае адносіны з Усявышнім, — адказвала Мімуна, — і Ўсявышні палепшыў адносіны авечак і ваўкоў».

Кожная маці сямейства, сутыкнуўшыся з непаслухмянасьцю сваіх дзяцей або з іх узаемнай нязгодай, мусіць кожны раз запытваць сябе, ці сапраўдная прычына ня ў тым, што яна сама занядбала свае ўзаемаадносіны з Богам?

Тое, што слушна ў сямейным плане, слушна і ў плане сацыяльным. Адныя толькі чалавечыя сродкі, веданьне псіхалогіі, педагагічныя дараваньні, аўтарытэт і прэстыж бясьсільныя зьдзейсьніць паяднаньне людзей, у якіх смак падзелу жыве ад часу першароднага граху, і асабліва тое паяднаньне ў любові, якога Хрыстос патрабуе з такой настойлівасьцю.[...]

Дык дайце больш прасторнае месца малітве ў вашым жыцьці, і я перакананы, што неўзабаве вы зможаце мне напісаць: «Я палепшыла адносіны паміж мною і Ўсявышнім, а Ўсявышні палепшыў адносіны між маімі «маладымі дзікунамі», якіх я не пакідаю надзеі ў хуткім часе назваць «маладымі анёламі»!

# Віншуем

Супольнасьць грэка-каталіцкіх семінарыстаў у Драгічыне-над-Бугам з падзякай і пашанай складае віншаваньні марыяніну ***айцу Пятру (СМАЛІНСКАМУ)***, які духоўна спадарожнічае нам на дарозе нашага ўсебаковага разьвіцьця, ***з нагоды ягонага 40-годдзя і 20-х угодкаў манаскага жыцьця.***

***МНОГІЯ ЛЕТЫ!***



# Гары Потэр:

## Забараніць нельга зьмілавацца

*(Заканчэньне са с. 2-3)*

стагодздзя, а выхады на вуліцу — наведваньнем адно школы і Царквы, ад чаго дзеці, бунтуючы, перастаюць увогуле чытаць і пазьней могуць нават адысьці ад веры. Некаторыя спрабуюць даваць чытаць дзецям класічныя творы, але ім гэта часьцей за ўсё нецікава (ды й каб яшчэ бацькі чыталі іх, бо самі нават не адкрываюць такія кнігі). А што рабіць з дзецьмі, якія ўвогуле нічога не чытаюць, нават не жадаюць адкрыць коміксы, ды ўвесь вольны час праводзяць на вуліцы, гуляючы з сябрамі (а на самой справе забаўляюцца паленьнем, алкаголем і іншымі сучаснымі «забаўкамі»)? Як іх адцягнуць ад гэтага? Можа, не пабаімся скарыстаць Гары Потэра, якога многія дзеці чытаюць, дзякуючы рэкламе і таленту аўтаркі (а талент дзіцячага псіхолага і педагога, таксама, як і літаратурны, яна сапраўды мае). Чытаюць вось ужо пятую кнігу, а яны не тануткія — пад 900 старонак, разам ужо амаль як «Вайна і мір» выходзіць. Ім цікава!? Дык, можа, даць нешта падобнае? Адным — Толкіена, іншым — «Прыгоды Томэка» Альфрэда Шклярскага ці нешта з Жуль Верна, іншым — «Тры мушкецёры», Тома Сойера ці капітана Блада, Крапівіна ці... адну са шматлікіх кніг для падлеткаў, якую вашае дзіця проста захоча прачытаць. Толькі каб запрапанаваць нешта, ды яшчэ каб падабалася, зьявілася жаданьне чытаць, для таго бацькам трэба ведаць сваё дзіця, ягоныя зацікаўленьні, ягонае жыцьцё. Іншымі словамі, яны павінны самі заняцца выхаваньнем, павінны пазнаць сваё дзіця як асобу, як сына ці дачку, як канкрэтнага чалавека, як дзіця Божае, бо яны, бацькі, а ня школа ці кнігі, адказваюць перад Богам за сваіх дзяцей, за новых людзей, што, вырастаючы, будуць несьці ў сьвет тое, чаму навучыліся ад сваіх бацькоў.

Паспрабуем скончыць гэтыя разважаньні, хоць, зразумела, тэма далёка ня вычарпаная. Наша мэта была паказаць іншы погляд на праблему кнігі Д.Роўлінг «Гары Потэр» і яе магчымую ролю ў выхаваньні, а таксама зьвярнуць увагу на праблему самога сямейнага выхаваньня, якое, на жаль, часта адсутнічае ў сучасных сем'ях. Спадзяемся, што гэта прынясе карысьць. Калі ў вас узьнікнуць пытаньні, то пішыце нам у рэдакцыю «Разам», а мы з радасьцю адкажам Вам.

**Алесь АЎДЗЯЮК**

**ВІНШУЕМ *Апостальскага Візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-католікаў Беларусі***

**айца архімандрыта Сяргея (ГАЕКА)**

***з 30-мі ўгодкамі ягонага СЬВЯТАРСТВА***

***і 10-годдзем ягонай ахвярнай і адданай працы***

**на карысьць нашай Царквы і ўсяго беларускага народу.**

***РАЗАМ ВІНШУЕМ!***

*Рэдакцыя «**РАЗАМ**» ды ўсе семінарысты віншуюць **Андрэя КРАТА** і **Алеся ТРАФІМЕНКУ** з пасьпяховым **ЗАКАНЧЭНЬНЕМ СЕМІНАРЫІ.***

*Мы молімся, каб вы неўзабаве сталі сьціплымі і ахвярнымі сьвятарамі, гатовымі да службы Богу ды людзям.*

**РАЗАМ № 2 (14) - 2004**

дадатак да газеты «Царква», № 2 (41)

**Над нумарам працавалі:**
Алесь АЎДЗЯЮК,
Андрэй БУЙНІЧ



**ПІШЫЦЕ НАМ:**
**razam_bgkc@tut.by**

al.Andrej Bujnicz
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA